# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 5(76) Травень 2000 May Год выд. 8.

## Пра сапраўдныя наступствы Чарнобыльскае катастрофы для задароўя беларусаў і спробы схаваць гэтую інфармацыю гаворыць Генадзь Грушавы.

RFE/RL

**(Грушавы:)** "Выкарыстоўваць гэтую праблему ў апошнія дзесяць год спрабавалі самыя розныя палітычныя сілы. Трэба не выкарыстоўваць гэтую праблему, трэба яе дакладна ўсьведамляць.

Праз чатырнаццаць год беларускі народ не аддаліўся ні на адзін крок ад тых трагічных наступстваў, якія мы перажывалі ў 86-м, 88-м, дзевяностых гадах.

Я дакладна ведаю, наколькі пагаршаецца здароўе людзей. Я дакладна ведаю, які ўзровень сьмяротнасьці ў рэгіёнах, дзе радыяцыя нават ад аднаго кюры – таго ўзроўня, які сёньня ўлады лічаць увогуле ня маючым ніякага дачыненьня да здароўя людзей.

Вось калі гэтае пытаньне разглядаць ня як палітычную кан'юнктуру, а калі займацца глыбока гэтым пытаньнем, як мы ім займаліся ў 1989-90 гадах, калі мы ўзьнялі велізарны грамадзкі рух, – вось тады відавочна, што людзі пачнуць зьвязваць сваё ўратаваньне, зьвязваць будучыню сваіх дзяцей якраз з рэформамі, са зьменамі кіраўніцтва, са зьменамі ў дзяржаўных структурах.

На жаль, сёньня ні адзін, ні другі бок пасапраўднаму не разумеюць маштабы катастрофы. Але розьніца ў тым, што дзяржава, і, канкрэтна, кіраўнік гэтай дзяржавы, сёньня фактычна пазбаўляе мільёны людзей дапамогі, якая сапраўды патрэбная на дзяржаўным узроўні. Сам-насам не пераадолець гэтыя наступствы. Дык вось гэты кіраўнік пазбаўляе іх нават тых крышак, нават таго, што засталося яшчэ ад закону, прынятага ў 1991 годзе ў справе сацыяльнай абароны грамадзян, якія пацярпелі ад Чарнобыльскае катастрофы".

**(Карэспандэнт:)** "Спадар Генадзь, вы сказалі, што дакладна ведаеце, як пагаршаецца здароўе людзей, і вы дакладна ведаеце, што адбываецца на тых тэрыторыях. Я б хацела, каб вы канкрэтызавалі пытаньне: а ці магчыма атрымаць дакладныя зьвесткі ў гэтай справе ў Беларусі і як, якім чынам?"

**(Грушавы:)** "Канкрэтызую: на 30% зьменшылася працягласьць жыцьця тых людзей, што сёньня жывуць у чарнобыльскіх рэгіёнах. На трэць!

Сёньня ў Чарнобыльскіх рэгіёнах, найперш у Гомельскай вобласці, каля 92 % дзяцей – хворыя. Сёньня ў Гомельскай вобласьці ідзе павелічэньне ў тры разы захворваньняў крыві – і гэта праз 14 год пасьля трагедыі. Сёньня ў два з паловай разы павялічылася – і гэтая лічба таксама расьце! – колькасьць народжаных з рознымі формамі парушэньняў. Гэта тое, што дакладна ведаюць і аб чым гавораць у першую чаргу тыя лекары, якія займаюцца гэтымі хворымі дзецьмі ў Нараўлянскім, Брагінскім, Чачэрскім, Веткаўскім раёнах.

А што датычыць магчымасьці мець поўную і адпаведную навуковую інфармацыю, то ўжо з 1997 года прэзыдэнт забараніў штогодняя справаздачы Акадэміі навук і ўсіх адпаведных навуковых інстытутаў, якія вядуць чарнобыльскія дасьледаваньні. Апошняе выданьне было ў 1997 г. З 1997 года забароненыя ўсе формы распаўсюджваньня гэтай навуковай інфармацыі сярод насельніцтва. Тэле і радыёмарафоны, спэцыяльныя праграмы на радыё забароненыя, зьнішчаныя спэцыяльныя рубрыкі ў выданьнях грамадзка-палітычнага кшталту. Толькі ў вузканавуковых знаходзяцца артыкулы, прысьвечаныя Чарнобылю.

І апошняе: калі мы паспрабавалі два дні таму правесьці разам з прафэсарам Нікітчанкам навуковую сэсію і запрасілі з выступамі прадстаўнікоў розных навуковых інстытутаў Акадэміі Навук, яны спачатку пагадзіліся прыйсьці, а потым амаль усе адмовіліся. Забарона. Сёньня без асабістага дазволу спадара Кеніка, а можа, нават, і спадара Шэймана выдаваць такую навуковую інфармацыю – ня ў сэнсе нейкіх сакрэтаў дзяржавы, а ў сэнсе праўды, якая здольная адчыніць вочы зноў-такі грамадзтву – нельга.

Мы праводзілі чатыры месяцы таму выбарачнае апытаньне людзей, якія жывуць у Гомельскай, Магілёўскай вобласьці. 72 % апытаных ставяць на першае месца свой страх за здароўе дзяцей. Вось вам і сытуацыя вакол Чарнобыля.

І таму сёньня ідзе такая наўмысная палітыка засакрэчваньня – тая самая, што была ў Савецкім Саюзе ў 1986-87 гадах. Мы, фактычна, на дзяржаўным узроўні вярнуліся ў тыя самыя часы. І тое самае стаўленьне – каб там жылі людзі, туды накіроўваюць маладых спэцыялістаў. Усё гэта шляхі, па якіх радыяцыя і сёньня дасягае любога кутка Беларусі. Таму Чарнобыльская трагедыя застаецца і сёньня агульнанцыянальнай трагедыяй".

Вольга Караткевіч

## Дзень нацыянальнай жалобы

26-га красавіка споўнілася 14 гадоў з дня аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Для беларусаў гадавіна чарнобыльскай катастрофы -- гэта дзень нацыянальнай жалобы. У касьцёлах, цэрквах і месцах памяці ахвяраў трагедыі ў Беларусі адбыліся жалобныя набажэнствы. Падобна як і ў мінулыя гады, у гэты дзень у Менску пасаджаная яблыня -- як сымбаль перамогі жыцьця над сьмерцю.



**Спадар Віталь ЦЯРПІЦКІ —**

**сакратар БЦР на эміграцыі, віцэ-старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, ведамы і настойлівы беларускі культурны, палітычны і рэлігійны дзеяч у Саўт Рывэр, ЗША., вялікі патрыёт свайго народу.**

**Паважаны Віталь! Вітаем Цябе на старонках нашае незалежнае газэты.**



## МАСАВАЯ АКЦЫЯ "ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ-2000"

ПРАЙШЛА 26-га КРАСАВІКА Ў МЕНСКУ

**У паходзе "Чарнобыльскі Шлях — 2000" 26-га красавіка г. г. узяло ўдзел каля 40.000 чалавек. Акцыя прайшла даволі спакойна, шмат у чым яна насіла жалобны характар.**

**Масавы мітынг адбыўся на плошчы Бангалёр у Менску, дзе найбольш эмацыйнай была прамова новага старшыні Аб'яднанае Грамадзянскае партыі Анатоля Лябедзькі ды іншых ведамых беларускіх апазыцыйных лідэраў. Чарнобыльскі Шлях — 2000 атрымаўся найвялікшай масавай акцыяй пратэсту ў гэтым годзе.**



"Чарнобыльскі Шлях-2000" ў Менску, 26-IV-2000 г.

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

***Упершыню ў сваёй гісторыі Плата Прадстаўнікоў амэрыканскага Кангрэсу прыняла спэцыяльную рэзалюцыю ў справе Беларусі.***

# ПАЛАТА ПРАДСТАЎНІКОЎ

**2 сэсія 106-га скліканьня**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

Мы выказваем асуджэньне працяглым і вельмі сур'ёзным парушэньнем правоў чалавека ў Рэспубліцы Беларусь, адсутнасьцю прагрэсу на шляху да дэмакратыі і законнасьці ў Беларусі. Мы заклікаем рэжым прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі пачаць перамовы з прадстаўнікамі апазыцыі і аднавіць канстытуцыйныя правы беларускага народу, заклікаем урад Расейскай Фэдэрацыі паважаць суверэннасьць Беларусі.

Злучаныя Штаты Амэрыкі жыцьцёва зацікаўленыя ў разьвіцьці дэмакратыі ў замежжы і падтрымліваюць дэмакратыю і эканамічны росквіт Рэспублікі Беларусь.

Восеньню 1996-га году беларускі прэзыдэнт Аляксандр Лукашэнка правёў спрэчны рэфэрэндум дзеля таго, каб прыняць новую Канстытуцыю Беларусі і скасаваць парлямэнт – Вярхоўны Савет 13 скліканьня – і замяніць паслухмянай заканадаўчай структурай.

Прэзыдэнт Лукашэнка правёў рэфэрэндум, на падставе якога незаконна падоўжыў свае паўнамоцтвы да 2001 году ў парушэньне Канстытуцыі 1994 году.

Законны тэрмін прэзыдэнцтва Лукашэнкі скончыўся ў ліпені 1999 году.

Беларусь ператварылася ў сапраўдную аўтарытарную паліцэйскую дзяржаву, дзе правы чалавека стала парушаюцца.

Эканоміка Беларусі ў застоі, а ўзровень жыцьця народу варты жалю.

У травені 1999 году беларуская апазыцыя з мэтай выступіць супраць антыканстытуцыйнага падаўжэньня прэзыдэнцкіх паўнамоцтваў Лукашэнкі арганізавала альтэрнатыўныя прэзыдэнцкія выбары, чым выклікала жорсткі перасьлед з боку ўладаў.

Лідэр апазыцыі Сямён Шарэцкі, які баяўся за сваё жыцьцё, быў вымушаны ўцячы ў суседнюю прыбалтыйскую краіну – Літву.

Шэраг лідэраў апазыцыі, сярод якіх Віктар Ганчар, Анатоль Красоўскі і Юры Захаранка, зьніклі бяз сьледу.

Беларускі рэжым запалохвае і перасьледуе незалежныя сродкі масавай інфармацыі і праводзіць актыўную палітыку падаўленьня свабоды слова.

Былы прэм'ер-міністар Міхаіл Чыгір, які зьяўляўся кандыдатам на арганізаваных апазыцыяй альтэрнатыўных прэзыдэнцкіх выбарах у травені 1999-га году, знаходзіўся ў папярдніх зьняволеньні на падставе фальсыфікаваных абвінавачаньняў з красавіка па лістапад 1999 году.

Рэжым Лукашэнкі справакаваў сутычкі паміж АМОНам і дэманстрантамі 17 кастрычніка 1999 году пад час "Маршу Свабоды", які закончыўся зьбіцьцём дэманстрантаў і дзясяткамі нузаконных арыштаў.

Сотні мірных дэманстрантаў і больш за 30 журналістаў былі арыштаваныя 25 сакавіка 2000 году пад час мітынгу ў падтрымку дэмакратыі ў Менску. Гэта яшчэ раз прадэманстравала пагарду рэжыму Лукашэнкі да свабоды сходаў, аб'яднаньняў ды інфармацыі.

Рэжым Лукашэнкі адмовіўся ад канструктыўнага дыялёгу з апазыцыяй і выкарыстоўвае тактыку зацягваньня і падману насуперак спробам Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе наладзіць працэс дыялёгу.

Сапраўдны дыялёг з апазыцыяй і правядзеньне законных, свабодных і справядлівых выбараў немагчымыя ў атмасфэры рэпрэсіяў і страху, якая пануе ў Беларусі.

З красавіка 1996 году прэзыдэнт Расейскай Фэдэрацыі Барыс Ельцын і прэзыдэнт Лукашэнка падпісалі пагадненьне стварыць саюз дзяржаваў: Расеі і Беларусі.

У прэсе былі паведамленьні, якія заслугоўваюць даверу, аб тым, што ўрад Расейскай Фэдэрацыі аказваў падтрымку рэжыму Лукашэнкі ад моманту падпісаньня дамовы аб стварэньні саюзнай дзяржавы ў выглядзе афіцыйных крэдытаў ураду Расейскай Фэдэрацыі, несабраных мытных падаткаў, дапамогі ў продажы беларускай зброі, супольнай вытворчасьці зброі і ў заніжаных цэнах на энэрганосьбіты.

Прэса таксама апублікавала сапраўдныя падлікі, што эканамічныя субсыдыі ўраду Расейскай Фэдэрацыі для Беларусі дасягнулі 1,5-2 млрд. толькі ў 1996-97 гг. Гэта дазваляе рэжыму Лукашэнкі ўтрымліваць вялізныя паліцэйскія сілы і захоўваць дзяржаўны кантроль над эканомікай.

Саюзная дамова, падпісаная 8 сьнежня 1999 году Беларусьсю і Расейскай Фэдэрацыяй падрывае сверэнітэт Беларусі і пэрспэктывы дэмакратыі.

Кансультацыйная Рада беларускіх апазыцыйных партыяў звярнулася да ўраду Расейскай фэдэрацыі, Дзяржаўнай Думы і Савета Фэдэрацыі із заклікам прыпыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі.

Былыя старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслаў Шушкевіч і Сямён Шарэцкі заявілі, што эканамічная падтрымка Расейскай Фэдэрацыі мае ключовае значэньне для выжываньня рэжыму Лукашэнкі.

Саюзны дагавор паміж Расейскай Фэдэрацыяй і Беларусьсю быў ратыфікаваны расейскім парлямэнтам і нелегітымным парлямэнтам Беларусі.

Саюзны дагавор паміж Расейскай Фэдэрацыяй і рэжымам Лукашэнкі парушае абавязальніцтвы ўраду Расейскай Фэдэрацыі паважаць сувярэнітэт Беларусі, якія вынікаюць з мэмарандуму ў справе гарантыяў бясьпекі, які ў снежні 1994 году ў Будапэшце (Вугоршчына) падпісаў прэзыдэнт Рсейскай Фэдэрацыі Барыс Ельцын на канфэрэнцыі кіраўнікоў дзяржаваў-сябраў Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе.

Увод любой ядзернай зброі на тэрыторыю Беларусі, якая згодна з Дагаворам аб нераспаўсюджваньні ядзернай зброі абвешчаная без'ядзернай дзяржавай, будзе парушэньнем абавязальніцтваў Беларусі ў рамках гэтага дагавору.

У сувязі з усім вышэйпералічаным Палата Прадстаўнікоў (са згодаю Сэнату) пастанаўляе, што Кангрэс ЗША:

**1.** Асуджае працяглую палітыку парушэньня правоў чалавека рэжымам прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі ў Рэспубліцы Беларусь.

**2.** Далей асуджае арганізаваныя рэжымам Лукашэнкі судовыя працэсы і прысуды Андрэю Клімаву, Васілю Лявонаву, Уладзімеру Кудзінаву на падставе палітычна матываваных абвінавачаньняў і патрабуе іх вызваленьня.

**3.** Выказвае сваю глыбокую заклапочанасьць зьнікненьнем Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Юрыя Захаранкі, і заклікае рэжым Лукашэнкі правесьці поўнае і своечасовае расьсьледаваньне іх справаў.

**4.** Заклікае да неадкладнага дыялёгу паміж рэжымам Лукашэнкі і апазыцыяй з мэтай аднаўленьня ў Беларусі дэмакратычна абранай ўлады.

**5.** Настойвае, каб рэжым Лукашэнкі паважаў і ажыцьцяўляў правы ўсіх беларускіх грамадзянаў, уключна з сябрамі апазыцыі, якія сёньня беспадстаўна затрымліваюцца ў парушэньне іх канстытуцыйных правоў і яшчэ раз патрабуе ад рэжыму паважаць законнасьць і незалежнасьць судовай сыстэмы.

**6**. Яшчэ раз патрабуе ад Лукашэнкі правесьці законныя, свабодныя і справядлівыя парлямэнцкія выбары ў адпаведнасьці са стандартамі Арганізацыі Бясьпекі і Супрацоўніцтва ў Эўропе.

**7.** Падтрымлівае заклік Кансультацыйнай Рады беларускіх апазыцыйных партыяў да ўраду Расейскай Фэдэрацыі, Дзяржаўнай Думы і Рады Фэдэрацыі прыпыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі.

**8.** Заклікае міжнародную супольнасьць падтрымаць беларускую апазыцыю, працягваючы кантакты з законнаабраным беларускім парлямэнтам.

**9.** Падтрымлівае сувэрэнітэт Беларусі, яе незалежнасьць і тэрытарыяльную цэласнасьць, а таксама рынкавыя, дэмакратычныя пераўтварэньні і інтэграцыю у вялікую сям'ю народаў па абодва бакі Атлянтычнага акіяну.

**10.** Заклікае прэзыдэнта ЗША:

А) забясьпечыць дапамогу і супрацоўніцтва з дзеячамі беларускай апазыцыі;

В) сачыць, каб тэрмінова былі выдзеленыя адпаведныя сродкі на падтрымку праграмаў ўмацаваньня незалежных сродкаў масавай інфармацыі, захаваньня правоў чалавека, узмацненьня незалежных прафсаюзаў і дэмакратычнай апазыцыі ў Беларусі;

С) падтрымліваць свабодную плынь інфармацыі ў Беларусь.

**11.** Кангрэс Заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў узьняць пытаньне фінансавай падтрымкі з боку Расейскай Фэдэрацыі рэжыму Лукашэнкі на самым высокім узроўні ўраду Расейскай Фэдэрацыі.

**12.** Заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў запатрабаваць ад ураду Расейскай Фэдэрацыі ў адпаведнасьці зь ягонымі міжнароднымі абавязальніцтвамі поўнасьцю паважаць сувэрэнітэт Беларусі, асабліва ў сувязі з нелегітымным характарам Лукашэнкаўскага рэжыму.

**13.** Заклікае прэзыдэнта Злучаных Штатаў падрыхтаваць і скіраваць у Кангрэс даклад на наступную тэму:

А) сытуацыя правоў чалавека, працэсы дэмакратызацыі, выбары, незалежнасьць сродкаў масавай інфармацыі і кантроль рэжыму Лукашэнкі над беларускай эканомікай;

В) крокі, ажыцьцёўленыя Злучанымі Штатамі дзеля
таго, каб пераканаць урад Расейскай Фэдэрацыі прыпыніць падтрымку рэжыму Лукашэнкі;

С) стан інтэграцыі паміж Расеяй і Беларусьсю ў ваеннай галіне.

RFE/RL

# Напады з узламаньнем на аўтамабілі амбасады Злучаных Штатаў Амэрыкі зьдзейсьнены ў Менску 19 і 20 красавіка.

Менавіта тое, што напады з узламаньнем былі зьдзейсьнены на тры машыны на працягу двух апошніх дзён, а таксама яскравы аднолькавы почырк гэтых злачынстваў прымусіла амэрыканскую амбасаду выказаць беларускаму МЗС сваю занепакоенасьць гэтымі падзеямі.

Пашкоджаныя машыны замацаваныя за памочнікам амбасадара, кансультантам па палітычных пытаньнях амбасадара і дырэктарам Інфармацыйнага цэнтру пры амбасадзе (USIS). Адна зь іх была пашкоджаная на стаянцы каля жылога дома, яшчэ адна - каля Опэрнага тэатра. Наўмысьнікі дзейнічалі па аднолькавай схеме - яны выбівалі шкло ў машыне, траіпялі ўнутр і гramілі ітрэр'ер лімузінаў. Так, у адной з машынаў яны цалкам зьнішчылі дошку прыбораў. Характэрна, што з машынаў нічога не было скрадзена.

Безумоўна, гэтыя хуліганскія выпадкі не зьяўляюцца выпадковасьцю, а маюць мэтанакіраваны характар. Хутчэй за ўсё, гэта своеасаблівы "адказ" на рэзалюцыю Кангрэса ЗША па Беларусі, якая днямі была падтрыманая Камітэтам па міжнародных адносінах Палаты Прадстаўнікоў Кангрэсу.

## Беларусь вяртаецца да сталінізму,

*заяўляе амэрыканскі кангрэсмэн Сэм Гэйдэнсан.. Аляксандар Лукашук сустрэўся з Гэйдэнсанам ў Вашынгтоне ў яговым працоўным кабінэце на Капіталійскім узгорку.*

У прасторным кабінэце на вялізарным з чырвонага дрэва стале кангрэсмэна паміж паперау побач з фатаздымкамі чацьвярых дзяцей ляжыць апаленая цагліна. Нядаўна я пабываў у розных вашынгтонскіх кабінэтах, бачыў розныя сувэніры зь Беларусі – налепкі са знакам "Стоп Лука", бел-чырвона-белыя сьцяжкі, у калідоры Дзяржаэпартамэнту – вялікі фатаздамак прэзыдэнта Біла Клінтана ў Курапатах побач із Зянонам Пазьняком, але апаленая цагліна зь вёскі Параф'янава, што пад Докшыцамі, вылучаецца з гэтага шэрагу сваёй матэрыяльнай важкасьцю. Кангрэсмэн Сэм Гэйдэнсан прывёз яе летась з падмуркаў дому, дзе жыла сям'я ягонага бацькі. Сам Гэйдэнсан нарадзіўся ў Нямеччыне, у лягеры для перамешчаных асобаў Эшвэгэ ля Франкфурту-на-Майне. Ён стаў першым выхадцам зь сям'і ахвяраў Галакосту, які быў абраны ў амэрыканскі Кангрэс. Калі гэтая спадчына Галакосту стала важнай для Гэйдэнсана?

**(Гэйдэнсан:)** "Я заўсёды пра гэта памятаў. Гэта была частка нашага жыцьця зь дзяцінства. Памятаю белыя пакункі, перавязаныя шнурам. Мы пасылалі ў Польшчу пасылкі, а потым іх перадавалі ў Беларусь (частка нашых сваякоў жыла ў Польшчы). Часам мы пасылалі пасылкі ў Расею, але гэта было вельмі дорага, расейцы спаганялі вялікае мыта. Таму мы пасылаі пасылкі сястры ў Польшчу, яна завозіла перадачу ў Беларусь, дзе былі дзьве сям'і. Я ўпершыню спрабаваў патрапіць туды ў 1982 годзе, пад час першага падарожжа ў Расею. Расейцы ў 1982 годзе не дазволілі мне паехаць у Парф'янава, яны заявілі што дарогі былі непралазныя. Гэта магло быць праўдай, але хутчэй было хлусьнёй – яны проста не хацелі, каб я туды ехаў".

**(Лукашук:)** "Такім чынам, летась вы ўпершыню адведалі Беларусь?"

**(Гэйдэнсан:)** "Гэта была мая першая паездка ў Беларусь. Я быў у Маскве, быў у Літве раней. Я ехаў у Беларусь на аўтамашыне зь Вільні, там дом маёй маці. Я ехаў ў Парф'янава, адкуль бацька, і сустрэўся зь дзьвюма сем'ямі, што хавалі бацьку пад час вайны. У гэтым мястэчку быў і дом майго бацькі. Ён згарэў тры месяцы перад тым, як я туды прыехаў. Але рэшткі засталіся".

**(Лукашук:)** "Гэтыя рэшткі – абгарэлая цагліна, што ляжыць цяпер напамінкам на стале у адным з кабінэтаў Кангрэсу ЗША. З кім Вы сустракаліся пад час паездкі, якое ўражаньне пакінулі гэтыя сустрэчы?"

**(Гэйдэнсан:)** "У Беларусі мы пераважна сустракаліся з апазыцыяй, бо ў краіне няма законнага парлямэнту. Усё гэта вельмі сумна. Тут пракацілася хваля Другой Усясьветнай вайны. Пасьля грамадзянскай вайны сюды прыйшлі расейцы. Пад час Другой Усясьветнай вайны прыйшлі немцы і забілі шмат людзей, габрэяў і негабрэяў. Затым расейцы наступалі на немцаў, і вайна прайшла тут другі раз. Усё было цалкам зруйнавана, немцы спалілі вёскі дашчэнту. Гэта неверагодныя людзі, яны пакутвалі так шмат, і праявілі такую мужнасьць. А цяпер яны пакутуюць ад Лукашэнкі, які спрабуе стаць новым Сталіным у гэтай частцы сьвету. Гэта ведьмі сумная сытуацыя".

**Лукашук:)** "Сп. Гэйдэнсан, летась, на Дзень правоў чалавека Вы выступілі з прапановай вылучыць кандыдатуру сэнатара Джорджа Мітчэла, пасярэдніка ў мірным працэсе ў Паўночнай Ірляндыі, на Нобэлеўскую прэмію міру. Вы асабліва адзначылі такі рэдкі для палітыка талент сэнатара, як ягоная цярплівасьць: "Ён умеў чакаць – дзень за днём, тыдзень за тыднем, год за годам". Дайце, калі ласка, Вашае вызначэньне палітычнай цярплівасьці – увогуле і ў дачыненьні да Беларусі".

**(Гэйдэнсан:)** "Я скажу так: я буду настойліва дамагацца, каб беларускі народ жыў у дэмакратыі. Ідзе барацьба, і ў мяне хопіць цярплівасьці і сілаў настолькі, наколькі трэба для пабудовы дэмакратыі і грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі. Расчараваньне палягае ў тым, што сп. Лукашэнка праігнараваў усе намаганьні ў справе ўсталяваньня сапраўднага дыялёгу і правядзеньня спраўдных выбараў. Пра гэта сьведчаць і нядаўнія арышты журналістаў, арышты праціўнікаў рэжыму".

**Лукашук:)** "Беларуска-расейскі саюз успрымаецца краінамі-суседкамі Беларусі насьцярожана і з трывогай. Як Вы ставіцеся да гэтага працэсу, і якія наступствы, на Вашую думку, ён можа мець для беларусаў?

**(Гэйдэнсан:)** "Наступствы нядобрыя для беларускага народу. Беларусы хацелі мець незалежную дзяржаву, ў якой самі б мусілі апекавацца сваёй будучыняй, а не прывязваць яе да праблемаў Расеі. Ясна, што аднаўленьне імпэрыі савецкага тыпу ня ў іхных інтарэсах. Што тычыцца мараў сп. Лукашэнкі стаць прэзыдэнтам адноўленага Савецкага Саюзу пад якой-небудзь іншай назвай – я ня думаю, што гэта здарыцца. Гэта супярэчыць волі літаральна кожнага беларуса, зь якім я сустракаўся".

**(Лукашук:)** "Сп. Гэйдэнсан, за апошнія месяцы Вы тройчы выступалі ў справах Расеі. Мінулай восеньню Вы станоўча ацанілі трансфармацыю гэтай краіны і дасягненьні у справе дэмакратыі, у тым ліку – свабоды прэсы. У лютым сёлета, аднак, Вы ў тым ліку ініцыявалі калектыўны ліст кангрэсмэнаў Пуціну з пратэстам супраць перасьледу карэспандэнта Свабоды Андрэя Бабіцкага. У канцы сакавіка, з нагоды абраньня Пуціна прэзыдэнтам, вы зрабілі заяву, вытрыманую ў вельмі асьцярожных танах, у якой папярэдзілі, што рэформы ня могуць ажыцьцяўляцца без захаваньня правоў чалавека. Вы зьмяняеце сваю пазыцыю што да Расаеі?"

**(Гэйдэнсан:)** "Я думаю, відавочна, што Расея прайшля шлях ад таталітарнай дяржавы, дзе не было свабоды слова, свабоды сходаў да дзяржавы, дзе пачаўся працэс percтваравання... 

**(Гэйдэнсан:)** "Я думаю, відавочна, што Расея прайшля шлях ад таталітарнай дяржавы, дзе не было свабоды слова, свабоды сходаў да дзяржавы, дзе пачаўся працэс перэтваравання. Розьніца паміж Беларусьсю і Расеяй у тым, што Беларусь рухаецца ў памылковым накірунку. А Расея рухаецца ў правільным накірунку, але часам аступаецца. У Расеі шмат праблемаў – і яе вайна ў Чачні, і абыходжаньне з прэсай, але з пункту гледжаньня накірунку руху Расея ў нашмат больш пазытыўнай сытуацыі, чым Беларусь. Я маю спадзяваньні на Расею, думаю, што як і ў любой краіне, дзе адбываецца перамена палітычнага рэжыму, яна не праходзіць цалкам гладка. Але расейцы хаця б рухаюцца далей ад сталінізму. Сп. Лукашэнка, выглядае, рухаецца да сталінізму".

**(Лукашук:)** "Вы ані словам ня згадваеце вайну ў Чачні ў апошняй сваёй заяве…"

**(Гэйдэнсан:)** "Мы ўздымаем пастаянна гэтае пытаньне, працуем, будзем працягваць працаваць з амэрыканскім Чырвоным крыжам, з уцекачамі. Усе гэтыя пытаньні сур'ёзныя. Але мусіць таксама быць балянс – няможна ў кожнай заяве ўздымаць усе праблемы".

**(Лукашук:)** "Сп. Гэйдэнсан, я пагглядзеў Вашую старонку ў Інтэрнэце Кангрэсу – заўважыў, што летась, напрыклад, Вы выступалі на тэмы міжнароднай палітыкі 23 разы, а за тры месяцы сёлета – ужо зрабілі 20 такіх заяваў, выступаў, зваротаў. Чым растлумачыць такую зьмену Вашай актыўнасьці. Ці не азначае яна зьмяншэньня ўвагі да выбаршчыкаў у штаце Канэктытут, чые інтарэсы Вы прадстаўляеце ў Кангрэсе ўжо 20 гадоў?

**(Гэйдэнсан:)** "Кангрэс працуе такім чынам, што ў мяне два штаты памочнікаў – адзін займаецца міжнароднымі справамі, другі – з праблемамі у маёй выбарчай акрузе. Магу Вас запэўніць, што мы зусім ня зьнізілі нашую актыўнасьць ў акрузе. Проста ў першы год, калі я пачаў працаваць ў камітэце замежных справаў у якасьці лідэра ад дэмакратаў, спатрэбіўся час, каб набраць штат, каб набраць хуткасьць. Цяпер у нас поўны штат, мы напружана працуем, і я спадзяюся пасьля выбараў стаць старшынём гэтага камітэту. Вы тады пабачыце яшчэ больш актыўнасьці ў гэтай сфэры – без зьмяншэньня актыўнасьці ў выбарчай акрузе".

Пад час нашай гутаркі Сэм Гэйдэнсан час ад часу паглядаў на экран манітора, дзе вялася простая трасляцыя з залы пасяджэньня Палаты Прадстаўнікоў. На табло загараўся час – да галасаваньня заставаліся лічаныя хвіліны, кангрэсмэны звычайна дабіраюцца да сваіх месцаў праз падземны пераход, дзе ходзяць невялікія вагончыкі. Перад разьвітаньнем я папрасіў Сэма Гэйдансана ўявіць, што перад ім не журналіст з Беларускай Службы Радыё Свабода, а ягоны выбаршчык, які, як і некалі Сэм, жыве на сваёй ферме, цяжка працуе, лічыць грошы. І вось ягоны кангрэсмэн мусіць патлумачыць, чаму столькі ўвагі ён аддае далёкай Беларусі.

**(Гэйдэнсан:)** "Па-першае, у мяне глыбокае пачуцьцё ўдзячнасьці дзьвюм сем'ям у Парф'янава, якія ўратавалі бацьку. Для іх гэта было вельмі цяжкае рашэньне. Калі б іх схапілі нацысты, гэтыя сем'і, а, магчыма, і цэлая вёска загінулі б. Вяскоўцы ведалі, што гэтыя сем'і хавалі майго бацку і ягонага брата. Яны моцна рызыкавалі. Я лічу, што маю абавязак удзячнасьці перад гэтымі надзвычай мужнымі людзьмі, якія так шмат пакутвалі, а цяпер яны ў эканамічнай небясьпецы, іхныя пэнсіі ўпалі на 90%, яны страчваюць палітычную свабоду, якую нядаўна толькі пачалі атрымліваць. Я працягну гэтыя свае намаганьні як частку свайго абвязку – асабліва перад гэтымі дзвюма сем'ямі".

У будынку Кангрэсу ЗША на Капіталійскім узгорку з Сэмам Гэйдэнсанам гутарыў

**Аляксандар Лукашук**

## І ссівелі, і злыселі, а так і не зразумелі...



Кажу не пра тых, каго лёс закінуў на Беларусь і хто па розных прычынах не можа або не хоча паднiцца да разумення, што яны апынуліся ў іншай краіне, хоць і роднаснай па паходжанні, аднак жа іншай, што яны апынуліся сярод іншага народа, хоць і крэўна блізкага, але ж іншага — са сваёй уласнай гісторыяй, культурай, традыцыямі і звычаямі, а перш за ўсё — са сваёй уласнай мовай, вельмі самабытнай і вельмі прыгоднай для вялікага гістарычнага жыцця.

Кажу пра тых, што нарадзіліся і выраслі тут, на гэтай зямлі, пра тых, ужо даўно не маладых, былых дзяцей беларускай вёскі, якія ад калыскі купаліся ў стыхіі роднай мовы, ад калыскі ўбіралі ў душы і сэрцы не толькі гукі і фарбы роднай зямлі, але і вялікую мудрасць продкаў, дзядоў і прадзедаў сваіх, засвойвалі шматвекавыя традыцыі народа, дзівосныя скарбы нацыянальнай культуры і мастацтва, пранікаліся адвечным духам беларушчыны ды і не раз кляліся ў сваёй любові да Беларусі. Менавіта ў гэтых сваіх землякоў і аднапляменцаў хачу я сёння, у лёсавызначальны момант нашай гісторыі, запытацца:

— І што ж вас прымушае добраахвотна лезці ў ярмо, у хамут няволі? І якая ж худая доля, адабраўшы розум і сумленне, гоніць вас у "камуналку" з аднаю кухняй і адным санвузлом, — вас, каму Бог даў магчымасць і права жыць у сваім асобным доме, быць у ім паўнапраўным гаспадаром і распараджацца сваім жыццём так, як хочацца?

Паслухайце, таварышы-панове! У вас жа за плячыма — вышэйшая адукацыя, у вас жа ў прыскрынках ляжаць дыпломы. Няўжо вы не чыталі ніводнай кнігі пра тое, як народы, якім напачатку не пашанцавала, дабіваліся і дабіваюцца свабоды і незалежнасці? Няўжо вы, ссівеўшыя і злысеўшыя, так і не зразумелі элементарнага, а менавіта, што толькі свабодны, непадлеглы народ у сваёй суверэннай, незалежнай дзяржаве можа забяспечыць сабе дабрабыт і шчасце?

Божа ж Ты наш прасветлы, пашлі Ты на іх, аблудных і цёмных, прасвятленне! Абудзі Ты ў іх душах хоць пачаткі чалавечай і нацыянальнай годнасці! Скажы Ты ім, няшчасным у апушчэнстве сваім, што нават усякая бязмоўная істота, усякі звер і птушка свабоду шануе, воўк лапу перагрызае сабе, а з капкана вырывацца, а вы, скажы ім, Госпадзі, а вы — усё ж такі людзі!..

**Ніл ГІЛЕВІЧ,**
**народны паэт Беларусі.**

## Спагада

*Кат звярнуўся да сваёй ахвяры,*
*На спагаду маючы надзею:*
*— Гэта я пакутую ад кары,*
*Я — ахвяра,*
*Вер мне, дабрадзею.*

*Потны, слізкі ад крывавай працы*
*Болей сам, здаецца,*
*Дыхаў страхам.*
*І цікаўнасць дыхала на пляцы,*
*І сачыла за скупым узмахам.*

*Кат, відаць,*
*Спазняўся на вячэру.*
*Кат спяшаўся да сям'і, дадому.*

*І няшчасны папрасіў сякеру —*
*Галаву адсек сабе самому!*

Рыгор Барадулін

# Агенты ўплыву

Андрэй ВЯРЫГА

Артыкулы В. Клінко «Основные задачи разведки» і ягонага апанента Ю.Варонежцава «Советский синдром: вокруг одни шпионы» закранаюць балючую для нашай краіны праблему шэрых кардыналаў русіфікацыі, ціхага захопу галоўных механізмаў улады, высьвятленьня беларушчыны ў апазіцыйнае гета ці наогул на маргінальныя ўскрайкі. Сёньня гэта рэальны склад беларускага жыцця. Палітыка інтэграцыі (русіфікацыі), якая актыўна здзяйсняецца апошнія пяць гадоў, асабліва паказальная, бо кантрастуе з папярэднім перыядам нацыянальнага абуджэння. Няма падставаў спрачацца з тэзамі В.Клінко, што ўмовы так званай інтэграцыі прадыктаваныя геапалітычнымі задачамі расійскай дзяржавы. Але дамінанта, зробленая ім на выведцы і спецслужбах Расіі, пакідае ў цяні больш моцныя рухавікі. Расійская выведка дзейнічае і ў Польшчы, і ў Англіі, і ў ЗША, у Іраку, у Грузіі, адным словам, паўсюдна. Аднак, там яна выконвае звычайныя задачы – эканамічны, ваенны, палітычны шпіянаж. Наўрад ці разведка Расіі можа планаваць далучэнне Францыі ці на сённяшні дзень Польшчы, Венгрыі, Чэхіі да Расіі.

Што датычыцца Беларусі (яшчэ Прыднястроўя, часткова Украіны), дык тут з мэтай уніі дзейнічаюць, апрача разведкі, усе дзяржаўныя інстытуты РФ – эканамічныя, ідэялягічныя, палітычныя, заканадаўчая і выканаўчая ўлады..

Яны грунтуюцца на гістарычна трывалай і псіхалагічна звыклай традыцыі далучэння (захопу) прылеглых тэрыторыяў (місія Расіі!) і абвяшчэння іх неад'емнай часткай расійскай дзяржавы (непарушнасць канстытуцыйнай прасторы; апошні прыклад – Чачня). Нават за некалькі пустых астравоў у Японскім моры расійскія шавіністы гатовы стаяць насмерць, хоць было б больш розуму прадаць іх японцам, а на выручаныя грошы расплаціцца з даўгамі насельніцтву па заробнай плаце.

Зразумела, што Беларусь для Расіі больш важная частка зямной паверхні, чым гэтыя японскія астравы (стратэгічная мяжа з Захадам). Нездарма дзяржаўныя мужы Расіі паспяшаліся самалётам на Беларусь у 1996 годзе ламаць волю Шарэцкага і Ціхіні, калі вырашалася пытанне захавання незалежнай палітыкі Беларусі і ўтаймавання ўладарных магчымасцяў А. Лукашэнкі.

Беларусь як дзяржава мусіць мець свае геапалітычныя інтарэсы і праводзіць адпаведную ім палітыку. Некалі яна яе мела, потым колькі стагоддзяў не мела, а цяпер намаганнямі інтэгратараў (г. зн. русіфікатараў) геапалітыка РБ фармулюецца як шчыльны саюз з Расіяй і супрацьстаянне Захаду. Зразумела, што дзяржава з гэтакай геапалітыкай (раённы маштаб) — проста пустое месца на карце. Па сутнасці, гэтая выпрацаваная ў расійскіх дзяржаўных пластах беларуская геапалітыка, пры пераказе простай мовай, зводзіцца да вяртання ў ранейшы стан памежнай правінцыі імперскім двухгаловым арлом. Трэба прызнаць, што такія маштабныя задачы, якія ўплываюць на ўвесь еўрапейскі палітычны баланс, не можа вырашаць ніякая выведка. Нават у дачыненні ўнутранага жыцця Беларусі гэтыя задачы ўсеахопныя і вырашаюцца намаганнямі колькасна вялікай і ідэалагічна падрыхтаванай ці апрацаванай 5-й калоны.

Часткова яе складаюць ураджэнцы Расіі, якія тут структурызаваліся (Саюз афіцэраў, так званае «беларускае казацтва», «нахімаўцы» і "суворaўцы» і да т .п.), аднак ні куды не падзецца ад прызнання, што большыня 5-й калоны — гэта мы, нашы браты і сёстры, ці бацькі і маці. Не тыя пенсіянеры-сталіністы ды старыя спітыя калгаснікі, якіх змрочнымі фарбамі абмаляваў у сваім палемічным артыкуле Ю.Варонежцаў, а звычайныя беларусы па пашпарце, а ў рэчаіснасці напаўкасмапаліты, якім для поўнага касмапалітызму не хапае грошай. Менавіта яны з пэўных дробных інтарэсаў прагаласавалі за дзяржаўнасць рускай мовы на рэферэндуме 1995 года. Гэта быў амаль цалкам увесь бухгалтарскі корпус, які не захацеў абцяжарваць сябе дакументацыяй у беларускай мове. Гэта выкладчыкі вузаў, тэхнікумаў, новастворaных акадэміяў, якія паленаваліся перакладаць на беларускую мову свае курсы. Гэта студэнты тэхнічных вузаў, якія адпаведна паленаваліся пісаць па-беларуску свае шпаргалкі. Гэта афіцэрскія сем'і беларускага паходжання – ад генералаў да прапаршчыкаў. Гэта большыня праваслаўных святароў, а таксама нашыя праваслаўныя вернікі, ахопленыя сумневам: ці пачуе Бог іхныя просьбы, калі яны выкажуць іх у беларускай мове.

Матывацыі ўсіх гэтых людзей, часцей за ўсё ірацыянальныя, аднак, каб штодзень кіравацца імі ў жыцці, недастаткова прошукаў стратэгічных аддзелаў расійскай выведкі. Для стварэння зомбі-беларусаў прыцягнутая сетка мясцовых аналітыкаў, сацыяльных псіхолагаў, радыё-, тэле- і газетных журналістаў, якія выпрацоўваюць тактыку стварэння 5-й калоны і выкідаюць у інфармацыйную прастору інтэграцыйную хлусню (славянскае брацтва, святое праваслаўе, ЗША жадаюць нас захапіць і эксплуатаваць). Чыноўнікі дзяржаўнай вертыкалі, якія наверсе, добрахвотна, а якія пасадамі ніжэй, міжволі становяцца калабарантамі і ляяльна выконваюць расійскія геапалітычныя планы.

Вяртанне ў Саюз (прылучэнне да Расіі) стымулюецца сяродграмадзянаў таксама наўмысна створанай галечай, нізкімі заробкамі і страхам страціць цяпло ў хатах, калі раптам Расія пакрыўдзіцца на пратэсты супраць прыяднання. Дзяржаўная падтрымка праваслаўя эксплуатуе дзеля інтэграцыі рэлігійныя пачуцці. Не хочацца лічыць міністра адукацыі РБ сп. В.Стражава расійскім разведчыкам, аднак ягоныя погляды на ролю Рускай праваслаўнай царквы ў адукацыі беларускіх дзяцей цалкам знаходзяцца ў рэчышчы расійскай геапалітыкі. Наогул, сёння кожны, хто ідзе ў царкву слухаць службу на расійскай мове, умацоўвае расійскую дзяржаўную прысутнасць у Беларусі, становіцца ў шыхты 5-й калоны. Бо старанна працягваецца ідэя абвяшчэння Беларусі праваслаўнай дзяржавай на падставе колькасці наведвальнікаў праваслаўных бажніцаў.

Зразумела, што царква як сацыяльны інстытут служыць умацаванню дзяржавы. Для Маскоўскага патрыярхата (Руская праваслаўная царква) — гэтая дзяржава Расія, але ніякім чынам не Беларусь. Правінцыйны стан Беларусі падкрэсьліваецца правінцыйнай царкоўнай структурай (экзархат, г. зн. намесніцтва). Цяпер разгорнутая жорсткая крытыка ў адрас нібыта каталіцкай экспансіі на землях Беларусі. Свецкія і царкоўныя крытыкі «лацінянаў», ясная рэч, не зважаюць на такую знакавую недарэчнасць, што, прыкладам, мінскі кафедральны Святадухаўскі сабор заняў былы касцёл бернардзінак.

Нельга пагадзіцца з В.Клінко, што П. Машэраў стаў ахвярай спецслужбаў з-за жадання незалежнасці Беларусі. Здаецца, ніхто столькі не зрабіў для сцірання граняў паміж Расіяй і Беларуссю, як Машэраў на пасадзе сакратара ЦК КПБ. Тагачасныя чуткі ўвязвалі ягоную трагічную смерць з намечаным пераводам у ЦК КПСС на пасаду сакратара па патрыятычным выхаванні з наступным узвышэннем да галоўнага ідэолага партыі. Нехта наверсе партыйнай лесвіцы паасцярогся.

Марны занятак выказваць прэтэнзіі іхнай разведцы і патрабаваць, каб яна нас не чапала. Гэта мы павінны змяніцца, каб разведка суседняй краіны сядзела ў канспірацыі, а не ў кожнай хаце на кніжных паліцах, у тэлевізары, у рускамоўных газетах, у школьных падручніках і г.д. Толькі дзяржаўная ўлада праз праграмы будаўніцтва дзяржаўнага суверэнітэту можа ўратаваць беларускі народ ад перараджэння ў рускамоўную бальшыню. Але такі ўрад, які ёсць сёння, зробіць на карысць Расіі ўсё сам, без ціску з боку расійскай разведкі. Бо гэты ўрад і ёсць галоўны агент расійскага ўплыву. **"Наша Свабода"**

### Прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан назваў імя новага амбасадара Злучаных Штатаў на Беларусі.

Як паведаміла агенства "Рэйтар", **6 красавіка** Клінтан паведаміў, што новым амбасадарам на Беларусі стане Майкл Козак (Michael Kozak), які прадстаўляў інтарэсы ЗША у Гаване. Козак заменіць Дэніэла Спэкхарда, які пакіне Беларусь летам гэтага года.

## Біяграфія будучага амбасадара ЗША на Беларусі.

*Майкл Козак*

Нарадзіўся ў 1946 годзе ў г. Пасадэна, штат Каліфорнія.

Скончыў Каліфарнійскі унівэрсытэт у Бэрклі, атрымаўшы дыплём бакалаўра (1968г.) і доктара права (1971 г.).

Кар'ерны дыплямат, у Дзяржпэпартамэнце з 1971 г., займаўся пытаньнямі міжамэрыканскіх адносінаў, у 1977 удзельнічаў у перамовах па Дамове аб Панамскім канале, у 1984 годзе ўзначаліў дэлегацыю ЗША на перамовах па адпраўцы з Кубы палітычных бежанцаў.

З 1997 года прадстаўляў інтарэсы ЗША на Кубе, зьяўляўся кіраўніком прадстаўніцтва ЗША.

Жонка Айлін Козак, два сыны.

Адзначаны некалькімі прэзыдэнцкімі ўзнагародамі.

## БНФ стварае шырокую кааліцыю

Выглядае, што дэклярацыі Вінцука Вячоркі на леташнім зьезьдзе БНФ пра захаваньне лідэрства Фронту і шырокую кааліцыю зь іншымі грамадзкімі сіламі ажыцьцяўляюцца ў рэальнасьці. Пра гэта на Сойме БНФ гаварыў намесьнік старшыні Фронту з Магілёва Анатоль Фёдараў. Маўляў, фронтаўцы мусяць шчыльна кантактаваць з партыямі, прафсаюзамі, грамадзкімі арганізацыямі, незалежнай прэсай — тымі, хто стаіць на прынцыпах незалежнасьці Беларусі. Варта нагадаць, што менавіта цураньне такога партнэрства, асабліва з прэсай, прывяло ў свой час да пэўнай ізаляцыі Фронту і, урэшце, да расколу гэтае арганізацыі на леташнім зьезьдзе.

Як вынікае з дакладу Фёдарава, кааліцыя патрэбная БНФ для фармаваньня новых рэгіянальных камандаў зь людзей, якія пасьля падзеньня рэжыму здольныя будуць узяць на сябе ўвесь цяжар улады. Іншымі словамі, пасьля Лукашэнкі ня мусіць быць вакууму ўлады ані ў сталіцы, ані ў рэгіёнах.

Вінцук Вячорка аналізаваў на Сойме «Вясну—2000», у прыватнасьці, Дзень Волі 25 сакавіка: «Рэжым паказаў, як ён ставіцца да незалежнасьці, паказаў свой твар і Пуцін, які, безумоўна, таксама стаяў за ўсім, што адбывалася. Пасьля 25-га сакавіка большыня міжнародных арганізацыяў прыйшла да высновы, што дэмакратычнай сытуацыі ў Беларусі не існуе, ня будзе, адпаведна, і ніякіх дэмакратычных выбараў», — сказаў старшыня БНФ.

Выступоўцы на Сойме БНФ казалі пра тое, што Чарнобыльскі Шлях — 2000, мусіць стаць адной з самых значных акцыяў веснавой кампаніі і будзе насіць агульнанацыянальны характар. Акцыя пройдзе пад лёзунгам «Мы — народ!»

С.П. – "НН."

## Помнік Леніну аднаўленьню не належыць

МАЛАДЗЕЧНА. Тое, пра што гаварылі многія і шмат, адбылося – ад беларускай гімназіі знік помнік Леніну. Прычым, неяк неўпрыкмет, без урачыстасцяў ці, наадварот, спачуванняў. Той–сёй з маладзечанцаў быў нават упэўнены, што яго выкралі пад покрывам ночы. Роўна паўстагоддзя таму гіпсавага Леніна паставілі на ўваходзе ў гарадскі парк з боку цяперашняй вуліцы Машэрава. Праз некаторы час было вырашана, каб правадыр сваім выглядам выхоўваў не абстрактных наведвальнікаў парку (сярод якіх і нецвярозыя, прыкладам, бываюць), але вучняў і настаўнікаў СШ №10. Гіпс не бронза, неўзабаве помнік пачаў разбурацца. Нейкі час яго яшчэ спрабавалі рэстаўраваць, у асноўным, нешматлікія прыхільнікі камуністычнай ідэі. Аднак, урэшце, у адпаведнасці з Законам аб ахове помнікаў (згаданы помнік, як і ягоны "калега" ля СШ №9, занесеныя ў кнігу "Збор помнікаў" АН Беларусі), пры ўдзеле старшыні Дзяржаўнай інспекцыі аховы помнікаў Дзмітрыя Бубноўскага ў Маладзечне стварылі камісію. Узначаліла яе намеснік старшыні гарвыканкома Данілея Жук. Сярод членаў – супрацоўнікі Акадэміі навук, старшыня Маладзечанскага аддзялення аховы помнікаў Аляксандр Мазанік, старшыня гарадскога савета ветэранаў вайны і працы Мікалай Адашкевіч. Выснова работы камісіі: помнік аднаўленню не належыць. Дэмантаж прайшоў акуратна і ціха. "Без шуму і пылу!" – сказаў бы герой Папанава з "Брыльянтавай рукі". Помнік ля СШ №9 пакуль што знаходзіцца ў прымальным стане. А класічная работа Заіра Азгура на Цэнтральнай плошчы прастаіць яшчэ доўга.



OFFICE OF THE GOVERNOR
JRTC, 100 WEST RANDOLPH, SUITE 16
CHICAGO, ILLINOIS 60601

GEORGE H. RYAN
GOVERNOR

March 25, 2000

Greetings:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to welcome everyone gathered for the 82nd Anniversary of the Bielarusian Independence Day.

The historic independence of Bielarus occurred on March 25, 1918. For eighty-two years, the Bielarusian government and people have worked diligently and patiently to garner pluralistic and democratic success for their country. Their dedication and love for Bielarus will be a source of inspiration and encouragement for generations to come. It is an honor to recognize the Bielarusian American community for preserving and promoting the rich culture and heritage of Bielarus.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes on this special occasion.

Sincerely,

George H Ryan

GEORGE H. RYAN
Governor



Жонка губэрнатара штату Ільлінойс Л. Л. Раян прэзэнтуе рэзалюцыю з нагоды сьвяткаваньня 25-га Сакавіка ў Чыкаго.
На здымку зьлева на права: Міхась і Марыя Каленік, Беларуска-Амэрыканская Рада; Вера і др. Вітаўт Рамук, Беларускі Каардынацыйны Камітэт; Спадарыня Л. Л. Раян; Нікодым Жызьнеўскі, Беларускі Каардынацыйны Камітэт і Зоя ды Ванкарэм Нікіфаровіч ад газэт "Беларускі Дайджэст" І "Рэкляма".

Сакрат ЯНОВІЧ (Беласточчына)

## АДКУЛЬ ЧАЛАВЕК У НАС?

Беларусь тысячагадовая, вечная пакутніца Эўропы! Такое, аднак, не шануюць, а гідліва баяцца. З такімі — трохі — як са сьвятымі: людзі моляцца да іх, але ніхто не хацеў-бы жыць з каторым. Вось і ўся крывадушнасьць, маладушша. Або: сутнасьць незвычайнага ў звычайным?

Героям помнікі ставяць, горача прамаўляючы пры гэтым, пад гукі духавых аркестраў. Але, скульптуры тыя чамусьці ваенныя, афіцэрскія, хоць ад вайсковай службы сыноў людцы ратуюць. А гэта-ж усяго выперадкі кагосьці са сьмерцяй, якая ўсё роўна немінучая, тая-ж на ўсіх і без надзеі на вяртаньне з таго сьвету.

На Тваё, можа быць, і шчасьце, Беларусь, герояў Ты ўласных ня ведаеш, дык тую процьму чужых, што Табе панаставілялі ў скверах — рыхтык балваноў языцкіх — бяспамятна забудзеш. Цярплівая, бы Госпад, матчыная ўсім гісторыя вучыць, што гераізм хлеба не дае і бывае там, дзе пажары, забойствы, руіна. Гераічны народ — гэта няшчасны і бедны народ. Гераічнасьць небясьпечная — у ёй зародак пагарды да жыцьця і працы (аж надта даказала тое Расея).

Ня варта, Беларусь, спадзявацца на чыюсьці спагаду, ніхто з Табою не падзеліцца куфрамі нажытымі. Кінь шукаць сабе пана-дабрадзея, сама бяры лёс у рукі. Зважай пры тым, што нахлебнікаў адусюль не забракуе. Хлеб, аказваецца, самы важны для тых, у каго няма душы. Сумленьня і Айчыны нямаш! Не ідзі, благаю Цябе, іх сьледам, бо за нішто прападзеш!

Нацыя беларуская — не гнятлівая выдумка нейкая на пагарбелае Тваё існаваньне, Яна, гэта Дух Божы, які вызваляе чалавека з багоннага бяссэнсу зьяўленьня свайго сярод жывых. Нацыя, нам-жа беларуская, як вышэйшая праява дабра ў нас самых, перамога жаданьня над злом. Анёл яна Навіны Добрай, ад якое хочацца паўстаць на ўсёй рост, быць і тварыць.

Стаўшы беларусам — будзеш сабою — патрэбным, замест сьмяцюжнае выпадковасьці /ў пошуках шчыліны/.

Сьнежань '99.



## Бярозавік пайшоў!

*МАЛАДЗЕЧНА. Пачынаецца нарыхтоўка бярозавіку. Пра тое, як ідзе вытворчасць у гэтым сезоне, расказвае начальнік цэха кансерваў з гародніны харчкамбіната Яўгенія Амілаўская:*

– Па плане трэба будзе перарабіць 250 тон соку, які нарыхтоўваецца з Маладзечанскага і Валожынскага лясгасаў. Не апошнюю ролю ады- грывае надвор'е: калі вясна халодная – часу для нарыхтоўкі будзе больш, а пры цеплыні хутка з'явяцца пупышкі і сок стане непрыгодны для карыстання.

Выпускаецца некалькі відаў прадукцыі. Цяпер, калі сок чысты, у яго дадаем цукар (55 кілаграмаў на тону соку) і лімонную кіслату (2 кілаграмы на тону) – атрымліваецца "Сок бярозавы з цукрам". Потым, калі сок будзе з прымесямі, дадаюцца канцэнтраты ці іншы сок. Будуць "Сок бярозава–яблычны", "бярозава–чарнічны", "бярозава–чарнаплоднарабінавы".

Асноўная тара – шкляныя трохлітровыя слоікі. Хаця скарыстаем і літровыя: няма грошай на закупку абсталявання для выкарыстоўвання ў якасці тары пластыкавых бутэлек. За суткі цэх можа перапрацаваць 16 тон сыравіны. У красавіку, хутчэй за ўсё, будзем працаваць і па суботах: вытворчая неабходнасць. Але гэта і добра, заработак будзе вышэйшы (за люты сярэдні заработак у цэху склаў 22 тысячы).

– Гэты карысны тавар павінен добра прадавацца, – гаворыць эканаміст па працы Іна Квяткоўская. – Трохлітровы слоік з сокам будзе каштаваць 470 рублёў (без знакамітага ПДВ), таму без затрымак плануем дастаўляць іх у гандлёвую сетку горада і вобласці.



Бярозка расце ў Людвінове, Вілейшчына.

Акрамя соку, спажывец купляе яшчэ трохлітровы слоік, які можна выкарыстаць для сваіх патрэб.

Дзякуючы вытворчасці соку, плануецца стабілізаваць фінансавае становішча. Хаця і без гэтага ёсць зрухі: замест "натуральнай аплаты", якая практыкавалася раней, заработак поўнасцю выдаем грашыма, ды і пакрысе ён расце.

Для Маладзечанскага харчкамбіната, такім чынам, кропля бярозавага соку з'явіцца прыбытковай. На 31 сакавіка камбінат выпусціў 26 тон прадукцыі. Але, прыкладам, 2 красавіка я абышоў некалькі маладзечанскіх магазінаў – бярозавага соку ў продажы не было.

Юрый КАРПІЦКІ.

## У Беларусі склалася рэвалюцыйная сітуацыя, калі вярхі не ўмеюць кіраваць па-новаму, а нізы больш не жадаюць жыць па-старому

У пачатку сваёй прэзідэнцкай кар'еры А.Лукашэнка з усіх экранаў кляўся: "Калі праз два гады народу не стане жыць лепш, я падам у адстаўку". Тады яшчэ не ўсе ведалі, што гэтаму чалавеку нічога не варта горача абяцаць адно і тут жа рабіць зусім процілеглае.

Наш цярплівы народ стойка трываў не адзін год. Мы чырванелі перад цывілізаваным светам за дрымучыя выхадкі "бацькі". А калі цярпенне дасягнула крытычнай кропкі, расійскія імперскія колы і іх спецслужбы пастараліся паспрыяць правалу працэдуры імпічменту, пасля чаго наша краіна пакацілася ў бездань дэспатызму.

Збянтэжаны законапаслухмяны народ з надзеяй чакаў дня сканчэння яго паўнамоцтваў. І сёння, калі "бацька" нарэшце стаў нелегітымным, мільёны людзей выказваюць грамадзяніну Лукашэнку сваю ганьбу і больш не жадаюць мірыцца ні з яго далейшым кіраваннем, ні са сваім жабрацкім існаваннем, ні з тым палітычным і эканамічным тупіком, куды гаракіраўнік нас загнаў.

У краіне склалася, як вучыў дзядуля Ленін, рэвалюцыйная сітуацыя, калі вярхі не ўмеюць кіраваць па-новаму, а нізы больш не жадаюць жыць па-старому. Лепшым выйсцем з такой выбуховай сітуацыі было б абранне легітымнага парламента і дабравольная адстаўка А.Лукашэнкі.

Незадаволенасць аўтарытарызмам Лукашэнкі расце нават сярод сілавых структур і чыноўніцтва. Гераічны грамадзянскі ўчынак афіцэра Батурына — першая ластаўка. Дзякуй Богу, што ў нас яшчэ не пераведаліся сумленныя сыны, у якіх баліць душа за Бацькаўшчыну. За імі абавязкова прачнуцца тыя, каму неабыякавы лёс іх дзяцей. А калі падымуцца ўсе, каму захацелася людзьмі звацца, калі грозная сілішча "отморозков" разыдзецца, разгуляецца, — не дапаможа дыктатуры нішто.

Жыве вольная і незалежная Беларусь!

**Ю.АЛЬКОВІЧ,**
**пенсіянер.**

Юрка Грыбоўскі

# Беларусы на заходніх франтох другой сусьветнай вайны

Калі зьвяртаюцца да праблемы ўдзелу жаўнераў-беларусаў у другой сусьветнай вайне, адразу звычайна ўзгадваюць ваенны чын нашых землякоў у шыхтох Чырвонай Арміі. Праўда, апошнім часам дасьледчыкі ўсё больш пачынаюць зважаць на беларускія нацыянальныя вайсковыя фармацыі, якія ствараліся ў нас падчас нямецкай акупацыі. Аднак у своеасаблівым цені застаецца абмінуты ўвагай удзел беларускіх вайскоўцаў на заходніх франтох другой сусьветнай вайны. Маюцца на ўвазе жаўнеры, якія змагаліся з гітлерцамі ў складзе Польскіх Збройных Сілаў на Захадзе (ПЗСЗ) пад брытанскім камандаваньнем. А ў гэтых вайсковых фармацыях нашых землякоў, між іншым, было нямала. Нават шэф штабу Галоўнакамандуючага ПЗСЗ генэрал Капанскі пагаджаўся з тым, што ў шыхтох Польскіх збройных адзінак у час апошняй сусьветнай вайны беларусаў было ад 14 да 16 тыс. чалавек. Прадстаўнікі беларускай эміграцыі наагул уважаюць, што беларускіх жаўнераў там было ня менш за 30 тысяч. Як бы там ні было, але прыведзеныя ніжэй факты робяць бясспрэчным удзел беларусаў-жаўнераў у складзе войскаў Заходніх хаўрусьнікаў.

Ведаючы нацыянальны склад даваеннай Польскай дзяржавы, можна меркаваць, што ў тымчасовым Войску Польскім далёка ня ўсе былі ўласна палякамі. Як вядома, жыхары г. зв. "Крэсаў Усходніх" уважаліся за грамадзянаў другой Рэчы Паспалітай і мусілі адбываць чынную службу. Падчас нападу фашысцоўскай Нямеччыны на Польшчу, у верасьнёўскую кампанію 1939 году ў шэрагі Войска Польскага з тэрыторыі Заходняй Беларусі была праведзеная масавая мабілізацыя. Пасьля таго, як тэрыторыя Польскай дзяржавы была падзеленая паміж больш магутнымі суседзямі з захаду і ўсходу, лёс вайскоўцаў-беларусаў склаўся па-рознаму. Частка польскіх афіцэраў беларускага паходжаньня знайшла свой апошні прытулак у Катыні альбо іншых мясцох гэткага кшталту. Але ж большасьці, можна ўважаць, пашэнціла. Хто нарэшце вярнуўся дахаты, а хто апынуўся ў розных савецкіх лягерох, дзе знаходзіўся датуль, пакуль паміж савецкім і польскім эміграцкім урадам Уладзіслава Сікорскага ў Лёндане не былі ўзноўленыя палітычныя стасункі. Здарылася гэта 30 ліпеня 1941 году, калі пры пасярэдніцтве брытанскага боку была падпісаная дамова Сікорскі-Майскі. А 12 жніўня гэтага ж году выйшаў дэкрэт ВС СССР аб амністыі й вызваленьні польскіх ваеннапалонных, што знаходзіліся ў СССР. Неўзабаве польскі бок атрымаў дазвол на фармаваньне Польскага Войска ў СССР, колькасьцю да 96 тыс. чал. Напрыканцы 1941 году былі сфармаваныя 5-ая й 6-ая дывізіі пяхоты, штаб якіх месьціўся ў Бузулуку, што воддаль ад Арэнбургу. У студзені-лютым 1942 году дзьве гэтыя адзінкі былі перакінутыя ў Сярэднюю Азію, дзе сфармаваліся яшчэ некалькі дывізіяў. Камандзірам Польскай Арміі ў СССР быў прызначаны генэрал Уладзіслаў Андэрс. У пачатку 1942 году ён, згодна з загадам зь Лёндану, эвакуяваў новаўтвораныя часткі ў Пэрсію, а адтуль у Ірак, дзе яны, злучыўшыся з польскімі збройнымі фармацыямі на Сярэднім Усходзе, забясьпечвалі ахову гэтага важнага брытанскага нафтавага рэгіёну. Акурат тым часам з ужо вышэйзгаданых 5-ай і 6-ай пяхотных дывізіяў утварылася 5-ая Польская Крэсовая Дывізія (5КДП). Ужо само слова "крэсовая" ў назове сьведчыць пра тое, што гэтая вайсковая адзінка мае дачыненьне да нашай тэмы. Вядомы беларускі гісторык на эміграцыі Віктар Сянькевіч мяркуе, што менавіта тут беларусаў было найболей, чымся ў астатніх фармацыях гэткага кшталту, ня менш за 30 % асабовага складу дывізіі. Зь вясны 1943 году 5КДП узначальваў генэрал зь Беласточчыны— Нікодым Сулік-Сарноўскі. Паводле сьведчаньняў, з шараговымі жаўнерамі ён размаўляў па-беларуску.

Апроч 5-ай Крэсовай беларусы мелі колькасную вагу і ў іншых буйных польскіх фармацыях, гэткіх як, напрыклад, 3-я Дывізія Карпацкіх Стральцоў, 2-ая Панцырная Брыгада і іншых больш дробных адзінках. Калі ўлетку 1943 году са складу Арміі Польскай на Ўсходзе (АПУ) вылучыўся 2-гі Польскі Корпус (2ПК) на чале з генэралам Андэрсам, то гэтыя часткі ўвайшлі ў ягоны склад. Па непрацяглым шкаленьні ў Палестыне, дзе, між іншым, некаторыя вайсковыя фармацыі з рук Андэрса атрымалі дывізійныя штандары, 2ПК у 1943 годзе быў перакінуты ў Эгіпэт, адкуль праз Міжземнае мора яго перасунулі на Пірэнэйскую выспу, дзеля ўдзелу ў Італьянскай кампаніі. Менавіта там жаўнеры 2-га Польскага Корпусу здолелі прадэманстраваць свае баявыя якасьці. Па сутнасьці, галоўную ролю Корпус выканаў у часе бітвы пад Монтэ-Касіна ў траўні 1944 году. Здабыцьцё гэтага кляштару сталася велізарнай перамогай заходніх аліянтаў. 2ПК браў удзел, таксама, у аваладаньні Балоніяй. Сёньня на вайсковых могільніках, параскіданых па ўсёй Італіі, можна знайсьці шмат надмагільных крыжоў з прозьвішчамі нашых землякоў. Так, згодна падлікам беларускіх эміграцкіх дасьледнікаў, толькі ў бітве за Монтэ-Касіна тут свой апошні прытулак знайшлі 259 беларусаў. Недзе сярод іх ёсьць і родны брат Ларысы Геніюш—Аркадзь. Агулам жа на розных франтох у Польскіх збройных фармацыях загінула каля дзьвюх тысяч жаўнераў беларускага паходжаньня. Шмат нашых землякоў былі адзначаны ганаровымі ўзнагародамі, кшталту такіх, як "Зорка Італіі" і інш.


5-я крэсовая дывізыя "Зубры"

Падчас італьянскай кампаніі шэрагі Корпусу папоўнілі жаўнеры з батальёнаў Беларускай Краёвай Абароны (БКА), якім увосень 1944 году ў Францыі ўдалося перайсьці на бок аліянтаў. Нягледзячы на тое, што ў складзе 2ПК не было аніякіх уласнабеларускіх вайсковых адзінак, сярод жаўнераў усё ж лунаў дух беларускасьці й нацыянальнай сьвядомасьці. Некаторыя беларускія вайскоўцы, напрыклад, падтрымлівалі стасункі з Радай БНР. Неўзабаве, утойваючы ад пільнага вока польскага камандаваньня, а таксама разьведкі, якая сачыла за настроем у войску, у рукі беларусаў-шараговаўцаў трапляла выданьне "Беларускія Навіны".

Па вайне 2ПК быў зь Італіі пераведзены ў Вялікую Брытанію, дзе зь верасьня 1946 году ён, разам зь іншымі польскімі збройнымі фармацыямі, пачаў перафармоўвацца ў Польскі Корпус Заспасабленьня й Разьмяшчэньня (ПКПР). Там жаўнеры Польскіх збройных частак у складзе войск Заходніх хаўрусьнікаў, у тым ліку й беларусы скончылі свой баявы шлях. Далейшы лёс нашых землякоў быў розным. Пэўная частка зь іх назаўсёды засталася на эміграцыі, асеўшы ў Вялікай Брытаніі альбо іншых краінах Вольнага сьвету. Потым яны спычыніліся да створаных па вайне беларускіх вэтэранскіх эміграцкіх арганізацыяў. Колішнія жаўнеры ПЗСЗ працягваюць працаваць на карысьць Бацькаўшчыны па-за ейнымі межамі. Сярод іх гэткія вядомыя прозьвішчы, як Кастусь Акула, Віктар Сянькевіч, Вінцэнт Жук-Грышкевіч і іншыя. Другая частка, якая паверыла савецкай прапагандзе, што ўсё ліхалецьце мінула, вярнуліся на Радзіму, дзе адразу пацярпела ад перасьледу з боку сталінскага рэжыму. Шмат каму зноўку давялося прайсьці праз лягерныя пакуты.


3-я дывізыя карпацкіх стральцоў

На жаль, цяперака на Беларусі мала хто ведае пра гэтую бачынку нашае гісторыі. Хаця па сутнасьці ўдзел беларусаў у другой сусьветнай вайне ў шыхтох войскаў заходніх хаўрусьнікаў ёсьць адным з кітоў, на якіх трымаецца гісторыя Беларускай Вайсковасьці XX стагодзьдзя. Дарэчы, сёлета ў траўні спаўняецца 55-годзьдзе перамогі ля Монтэ-Касіна.

студэнцкая думка



## *Нам пішуць... Нас пытаюць...*

Паважаны Спадар Рэдактар!

Узрушаны згадкамі Чэслава Сэнюха на старонках студзеньскага "Дайджэсту" аб шляху да Беларусі і беларушчыны нашага польскага сябра-пабратыма. Да таго-ж спадар Чэслаў не прамінуў у сваім кранальным успаміне і мае сьціплае пэрсоны, а дакладней колішняга супольнага з ім шчыраваньня (ня раз у засені Лазенкавага парку) над беларускай, асабліва Купалавай паэзіяй. Цяпер, з ладнаватае ўжо адлегласьці, у 20 гадоў, як-жа выразна і непаўтаральна паўстае ў памяці маё тагачаснае таварышаваньне "беларускае" з польскімі "культурнікамі". Абок сп. Сэнюха рупіліся на палетку беларуска-польскага духовага сваяцтва Эўгеніюш Кабатц, Ежы Путрамант, Ігар Сікірыцкі, Тадэуш Хрусьцялеўскі, Флёрыян Няўважны, Ганна Ратусь, Ежы Анташэўскі, Вацлаў Баршчэўскі... Называю прозьвішчы людзей, з якімі найбліжэй даводзілася мне сыйсціся падчас сваё дыпляматычна-радзецкае няпростае адысэі ў Варшаве на памежжы 70-80 гадоў. Ніколі не забудуцца дні беларускай літаратуры ў Польшчы, ладжаныя польскімі сябрамі ў кастрычніку 1982 году, у вастрэйшым крызісным часе. На высокім узьлёце лунала тады ў залях Варшавы, Лодзі, Таруня Беластоку, Любліна беларускае слова, беларуская песьня. Ды і прэзантанты харастві нашага былі на ўзроўні: М. Танк, А. Грачанікаў, І. Чыгрынаў, В. Адамчык, Адам Мальдзіс, У. Някляеў. Авацыі-ж варшавян у Кангрэсавай перапоўненай залі на выступы Беларускага ансамблю песьні і танца пад кіраўніцтвам М. Дрынеўскага трэба было пачуць, перажыць... Салодкі ўспамін!

І вось з гэтае помнае нагоды — дастойнага шэсьця беларускага па гасьціннай ziemi Polskiej — не магу не згадаць яшчэ аднае яркае постаці, прыязнага нашай справе паляка: Юзэфа Озгу-Міхальскага — паэта, дзяржаўнага дзеяча, аднаго з тагачасных кіраўнікоў Польскае сялянскае партыі (Stronnictwa Ludowego). У многім ягоная грамадзкая пазыцыя, аўтарытэт, заангажаваньне беларушчынай (узначальваў польскую дэлегацыю на сьвяткаваньні 100-х угодкаў Я. Купалы ў Менску, Вязынцы) спрыялі пасьпяховаму правядзеньню спомненых беларускіх "Дзён". У тым-жа 1982 годзе ў "Tygodniku kulturalnym" (No. 16, 11. 07) ён выступіў з грунтоўным, амаль на паласу, артыкулам пра аўтара "Жалейкі", "Паўлінкі", аднача сна зьмясьціўшы свой пераклад купалавага вершу "Магутнае слова, ты роднае слова..." А вянчаў гэтую беларуска-літаратурную старонку ў польскім тыднёвіку той самы бунтоўны "Прарок", бліскуча спольшчаны Чэславам Сэнюхам:

Powstańcie, dusze niewolnicze!
Odwieczną spiączkę zrzućcie z siebie!
Niech w waszym głosie grom zaryczy
I zniewoleniem zakolebie.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Na przekor krwawym przeciwnościom
Zrzucajcie jarzmo! Slijcie wici
I ludom wszego swiata głoście,
Że być narodem potraficie!

Хвілінай тугі і роспачы прыпадаю стамлёнай істотай да грукотна-гаючага купалавага радка: "І дайце знаць усім народам, якія вы моцны йшчэ народ!". А водгалас пранікнёны польскага сябра дадае мне веры ў нашую трывучасьць нязьнішчальную — што byc narodem potrafimy. Пэўна патрапім!

Аляксей Каўка, Масква.

Паважаны сп. рэдактар!

Апошнім часам на старонках беларускіх газэт зьяўляюцца плаксіва-сьлязьлівыя выказваньні, што вось Расея акупуе Беларусь і ўся справа незалежнасьці краіны праваліцца ў нябыт... Гэта чыста саўкова-лайдацкія бздуры розных недаверкаў...

А справа тут ясная, як Божы дзень, што беларусы не зьнікнуць як нацыя, бо гэта народ з шматвяковай гісторыяй, культурай і традыцыяй. Наша адраджэньне толькі-што пачало

набіраць сілы і размаху, і недалёкі той час, калі над Беларусьсю залунае бел-чырвона-белы сьцяг, Пагоня і Свабода. Трэба крыху цьвярозае цярплівасьці, а не кідацца ў дурную роспач і нараканьні... С. М.

Праскі Акцэнт **RFE/R**

# Пагроза вяртаньня ядзернае зброі ў Беларусь

7-га сакавіка газэта "Новые известия" апублікавала артыкул пад назвай "Ядзерны марш". Аўтар гэтага артыкулу, карэспандэнт Аляксандр Старыкевіч. Я каротка нагадаю сэнс публікацыі пры дапамозе цытаты:

"Аляксандар Лукашэнка неаднойчы называў вывад ядзернай зброі з тэрыторыі Беларусі памылкай. Неўзабаве яна можа быць выпраўленая, і ракеты вернуцца на баявыя пазыцыі разьмешчаныя на захадзе – за Смаленскам".

Далей робіцца спасылка на крыніцу ў кіраўніцтве Беларусі, якая паведаміла карэспандэнту "Новых Известий" пра тое, што паміж Менскам і Масквой ужо дасягнутая прынцыповая дамова, і робяцца высновы, што яшчэ сёлета ракеты зь ядзернымі боегалоўкамі могуць быць вернутыя на Беларусь. Я мушу зазначыць, што на Захадзе даволі сур'ёзна ўспрынялі гэтую інфармацыю. Напрыклад, нямецкая газэта "Бэрлінэр цайтунг" ня толькі цытуе згаданую публікацыю, але і дадае, што старшыня думскага камітэту ў справах абароны генэрал Нікалаеў у нядаўным інтэрвію гэтай газэце заявіў, што Расеі неабходна разьмяшчаць сваю ядзерную зброю так, каб мець магчымасьць процідзейнічаць амэрыканскай сыстэме проціракетнай абароны – ПРО.

Яшчэ зазначу, што міністар замежных справаў Беларусі Ўрал Латыпаў, які быў на той момант у Бэрліне, катэгарычна абверг паведамленьні аб магчымым разьмяшчэньні расейскіх ядзерных ракетаў на тэрыторыі рэспублікі. Пры гэтым ён спаслаўся на канстытуцыю, дзе запісана, што Беларусь – бязьядзерная дзяржава. Але да гэтага мы зьвернемся крыху пазьней, а зараз у мяне пытаньне:

Ці магчыма тэарэтычнае і практычнае вяртаньне расейскіх ядзерных ракетаў у Беларусь? Найперш, маю на ўвазе тыя ракетныя стартавыя пляцоўкі, якія зьнішчаліся за амэрыканскі кошт (прынамсі напалову); у першую чаргу: ці можна іх зноў выкарыстаць, і ці ёсьць наагул нейкі практычны і ваенны і палітычны сэнс у вяртаньні ракетаў як для Лукашэнкі, так і для расейскага кіраўніцтва?"

**(Саньнікаў:)** "Вы ўзьнялі вельмі складанае пытаньне, таму што тут ёсьць шмат акалічнасьцяў. Ну, па-першае, аб чым ідзе гаворка, калі кажуць і ў Маскве, і, мы ведаем, што і сам Лукашэнка казаў і ягоны дараднік, што ёсьць такая магчымасьць – то гэта ідзе гаворка аб парушэньні ўсіх абавязальніцтваў міжнародных, якія Беларусь узяла на сябе – і двухбаковых і шматбаковых. Існуе цэлы шэраг гэтых дамоваў, пагадненьняў, пачынаючы ад дамовы "Старт" і "Лісабонскага пратаколу" да гэтай дамовы, а таксама "Дамовы пра нераспаўсюджаньне ядзернай зброі".

І вось па ўсіх гэтых дакумэнтах Беларусь зьяўляецца бязьядзернай дзяржавай. І калі Беларусь далучылася да "Дамовы пра нераспаўсюджаньне ядзернай зброі" – яна далучылася як бязьядзерная дзяржава, і яна адмовілася ад магчымасьці, нават ад магчымасьці(!), прымаць, разьмяшчаць ці нейкім іншым чынам мець справу зь ядзернай зброяй. Але ж мы ведаем, што Лукашэнка не зьвяртае ўвагі на міжнародныя абавязальніцтвы Беларусі. Ён даказаў, што можа парушаць гэтыя абавязальніцтвы.

Я лічу, што магчымасьць такая існуе. Але тут ёсьць два магчымыя варыянты. Калі зараз кажуць, што яшчэ ў гэтым годзе могуць нейкую ядзерную зброю на тэрыторыю Беларусі прывезьці, то гэта магчыма толькі ў адным выпадку (і тое – тэарэтычна): калі Беларусь страціць сваю незалежнасьць і сувэрэнітэт, калі Беларусь стане часткай Расеі. Вось у гэтым – небясьпека.

Я лічу, што гэтыя заявы трэба тлумачыць менавіта ў такім накірунку, што калі з Масквы кажуць аб разьмяшчэньні ядзернай зброі, то маюць на ўвазе тое, што Беларусь страчвае незалежнасьць і становіцца часткай Расеі, а Расея, як ядзерная дзяржава, тады можа размаўляць з амэрыканцамі, напрыклад, аб разьмяшчэньні ядзернай зброі".

**(Тарас:)** "Я хацеў бы яшчэ зазначыць наконт бязьядзернага статусу Беларусі. Як вядома, у Канстытуцыі запісана і тое, што незалежная Беларусь імкнецца да нэўтралітэту. Але як гэта спалучаецца са стварэньнем той самай адзінай дзяржавы Беларусі і Расеі і ваеннага саюзу паміж імі? Напрыклад, міністэрства замежных справаў дагэтуль нічога выразнага на гэты конт не сказала. І сапраўды, што перашкаджае Лукашэнку ў патрэбны момант перарабіць гэтую Канстытуцыю… А што думае спадар Карбалевіч наконт магчымых намераў Лукашэнкі? Ці можа ён перайсьці ад словаў і пагрозаў да справы, гэта значыць сапраўды пайсьці на вяртаньне ракетаў, ці ён тут – асоба цалкам залежная ад расейскіх гэнэралаў?"

**(Карбалевіч:)** "Я ня буду казаць пра тэхнічны бок гэтай праблемы. Яе лёгка вырашыць. Тут праблема ў грашах. Колькі грошай на гэта спатрэбіцца. Я хацеў бы сказаць, што тут галоўныя, усё ж такі, палітычныя рашэньні. І сапраўды, тыя міжнародныя пагадненьні, як і Канстытуцыя, для Лукашэнкі зусім не зьяўляюцца недатыкальнымі. Мы гэта добра ведаем. І ўсё ж я хачу паразмаўляць на гэтую тэму ў тым выпадку, калі Беларусь усё ж захавае сваю незалежнасьць. Я думаю, што гэтая сытуацыя малаверагодная. Малаверагодная таму, што Расея ня пойдзе на гэтую акцыю. Таму што ў пляне ваенна-стратэгічным гэта дае мала плюсаў, а мінусаў – вельмі многа.

Па-першае, гэта рэзка абвастрае адносіны паміж Расеяй і Захадам. А Пуціна можна вінаваціць у чым заўгодна, толькі ня ў тым, што ён нерацыянальны палітык. Дык вось зараз, Расея проста ня можа сабе дазволіць канфрантацыю з захадам. У Расеі няма на гэта рэсурсаў, каб гэтую канфрантацыю вытрымаць і перамагчы. Затым, як толькі ядзерная зброя зьявіцца на Беларусі – у краінах Цэнтральнай Эўропы (Польшчы, Чэхіі, Вугоршчыне) таксама зьявіцца ядзерная зброя НАТО. Па-трэйцяе – рэзка абвастрацца адносіны з краінамі Балтыі, Украіны і гэта падштурхне іхны рух да ўступленьня ў НАТО.

І яшчэ адзін фактар – гэта дасьць моцную палітычную зброю ў рукі Лукашэнкі, пабольшыць ягоную палітычную вагу. Мы ведаем, што Лукашэнка шмат разоў спрабаваў праводзіць ув адносінах да Расеі палітыку паводле формулы: хвост круціць сабакам, і разьмяшчэньне ядзернай зброі менавіта ў Беларусі непрапарцыйна ўзмоцніць гэтыя магчымасьці Лукашэнкі, магчымасьці рэгуляваць адносіны Расеі з Захадам, абвастраць гэтыя адносіны на сваю карысьць. Я думаю, што ўсе гэтыя фактары недазволяць Расеі пайсьці на гэтую акцыю".

**(Тарас:)** "Дзякуй. Вы выразна акрэсьлілі цэлы спэктар праблемаў, якія можна аднесьці да адной тэмы: процістаяньне НАТО (паміж славянскім сьветам і НАТО ці саюзам Беларусі й Расеі і НАТО), а значыць і ядзернае процістаяньне. А як яно адбіваецца на ўнутрыпалітычнай сытуацыі ў краіне? Я маю на ўвазе: чаму гэтая тэма, здавалася б, выйгрышная для апазыцыі, для прыхільнікаў незалежнасьці Беларусі, пра якую вы ўжо сказалі, чаму яна гэтак рэдка выкарыстоўваецца ў якасьці палітычных аргумэнтаў супраць рэжыму?

Я хацеў бы сказаць, што дзяржаўны прапагандысцкі апарат працуе вельмі добра. Варта ўзгадаць, што тэма ядзернай зброі ўсплывае пэрыядычна і менавіта ў дзяржаўных СМІ, і што неяк беларускі тэле-афіцыёз (праграма "Рэзананс") паведаміла, што Беларусь быццам бы мае запасы збройнага плютонію дастатковыя для вытворчасьці сваёй зброі. Гэтая сэнсацыя тады адразу ж і лопнула, але ж Лукашэнка сам заяўляў і мы пра гэта ізноў жа гаварылі, пра ягонае жаданьне вярнуць ядзерныя ракеты. Дык, ці можа гэтая тэма стаць фактарам палітычнай барацьбы?"

**(Карбалевіч:)** "Безумоўна. Я толькі хачу адзначыць, што масавая сьвядомасьць Беларусі у значнай частцы жыве яшчэ ў нейкім такім савецкім ідэалягічным асяродзьдзі, якое прызнае, што НАТО – гэта вораг, што НАТО – гэта агрэсіўны імпэрыялістычны блёк. Таму яму трэба процістаяць, а адзіны спосаб процістаяньня – гэта саюз з Расеяй. Я хачу адзначыць, што спачатку вайны НАТО супраць Югаславіі, у пэрыяд Косаўскага крызысу, рэйтынг Лукашэнкі і падтрымка ідэі інтэграцыі з Расеяй адразу рэзка ўзрасьлі. Таму, мне здаецца, што гэта таксама гамуе тыя зрухі апазыцыі, каб выкарыстоўваць гэтую праблему ў сваіх мэтах.

Але сапраўды, я лічу, што апазыцыя недастаткова выкарыстоўвае гэты фактар. Я лічу, што лёзунг "Беларусь у Эўропу" трэба выкарыстоўваць больш эфэктыўна. Ці, напрыклад, такі фактар, такі лёзунг як "Лукашэнка – гэта вайна". Гэты фактар можна было выкарыстоўваць і ў пэрыяд Косаўскага крызысу, калі Лукашэнка ўсяляк цягнуў Беларусь і Расею ўмяшацца ў гэтую вайну. Гэта можна выкарыстоўваць і зараз, пад час чачэнскай вайны. Я думаю, што, сапраўды, вось гэты фактар, зьнешнепалітычны фактар, пакуль што выкарыстоўваецца недастаткова, у тым ліку і фактар пагрозы вяртаньня ядзернай зброі на Беларусь".

**(Тарас:)** "Прагучаў хвосткі такі лёзунг "Лукашэнка – гэта вайна". Спадар Саньнікаў, ці згодны вы з такім лёзунгам, з такім тэзісам? Ці адпавядае ён рэчаіснасьці? Як на Захадзе разглядаецца сытуацыя?"

**(Саньнікаў:)** "Безумоўна я згодны з гэтым лёзунгам і хацеў бы дадаць, што апазыцыя выкарыстоўвае тыя небясьпечныя заявы аб ядзернай зброі, якія гучаць зь Менску і падтрымліваюцца Масквой, і выкарыстоўвае перш за ўсё на міжнароднай арэне, таму што гэта ўжо міжнародная небясьпека. І зараз на Беларусь зьвяртаюць увагу менавіта як на фактар рызыкі. А гэта ўпершыню, можа, зьяўляецца такая палітычная лінія. І таму я лічу, што нельга казаць, што вяртаньне ядзернай зброі немагчымае. Не – таму, што ёсьць міжнародныя пагадненьні, а таму што гэта некарысна для Расеі. Усё магчыма.

І я хацеў бы тут дадаць (вы ўзьнялі гэтае пытаньне, што было дзесьці два гады таму) гэта не "Рэзананс" паведамляў, а гэта было падчас наведваньня Лукашэнкам навукова-прамысловага комплексу ці цэнтру ў Соснах, калі ён сам сказаў, што даў загад рэалізаваць паўнавартасную праграму дасьледаваньняў. І гэта было зразумела, што ў гэтую паўнавартасную праграму ўваходзіць і элемент узбраеньняў. Небясьпека тут ёсьць. Небясьпека стварэньня ядзернай зброі ў Беларусі. Таму што Лукашэнка захоплены гэтымі цацкамі.

Возьмем Паўночную Карэю, дзе былі такія спробы з дапамогай расейскіх вучоных неяк прысьпешыць свае дасьледваньні ў галіне ядзернай зброі. Такім чынам, усё гэта магчыма і трэба гэта выкарыстоўваць.

Я згодны са спадаром Карбалевічам, што трэба больш гэта выкарыстоўваць ў самой Беларусі і трэба тлумачыць, што значыць вяртаньне ядзернай зброі. Гэта не прынясе нейкай магутнасьці для Беларусі, таму што гэта – нонсэнс. Гэта будзе азначаць большую ізаляванасьць Беларусі ў міжнародных справах, гэта будзе азначаць канфрантацыю з Захадам. Гэта менавіта тая палітыка, якую праводзіць Лукашэнка. А палітыка канфрантацыі ніколі не прынясе народу ніякіх станоўчых вынікаў".

**(Тарас:)** "Пазыцыя Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША ў справе "Дамовы пра нераспаўсюджаньне ядзернай зброі", выкладзеная ў артыкуле Дзяржаўнага Сакратара Мэдлін Ольбрайт, апублікаваным у газэце "International Herald Tribune" 7 сакавіка.

У артыкуле ў прыватнасьці падкрэсьліваецца, што пасьля распаду Савецкага Саюзу ўзьнікла толькі адна ядзрная дзяржава – Расея. Усе іншыя новыя незалежныя дзяржавы далучыліся да дамовы ў якасьці няядзерных дзяржаваў, і ўся ядзерная зброя, якая была ва Ўкраіне, Беларусі і Казахстане, была вернутая Расеі. У цяперашні час удзельнікамі дамовы ёсьць усе дзяржавы сьвету, за выключэньнем Кубы, Індыі, Ізраілю і Пакістану.

"У 1997 годзе, – адзначаецца далей ув артыкуле, – прэзыдэнты Біл Клінтан і Барыс Ельцын дамовіліся наконт агульных рамак дамовы аб скарачэньні стратэгічных наступальных узбраеньняў – СНВ-3, якая прадугледжвае скарачэньне ядзерных арсэналаў на 80%. Незалежна ад гэтых перамоваў краіны працягваюць ліквідацыю сваіх ядзерных арсэналаў. Ад 1988 году Злучаныя Штаты Амэрыкі зьнішчылі больш як 13 тысячаў ядзерных боегаловак – больш паловы амэрыканскіх запасаў. Злучаныя Штаты не вырабляюць рашчэпных ядзерных матэрыялаў з таго часу, як яны ў аднабаковым парадку спынілі гэтую

вытворчасьць у 1992 годзе. У тым самым годзе Злучаныя Штаты спынілі выпрабаваньні ядзернай зброі, прычым, нават да таго, як пачаліся перамовы аб падпісаньні "Дамовы аб агульнай забароне ядзерных выпрабаваньняў".

Напрыканцы свайго артыкулу Мэдлін Олбрайт зазначае: "На канфэрэнцыі ў Нью-Ёрку, якая будзе разглядаць у наступным месяцы выкананьне дамовы, будуць сьцьвярджаць, што нератыфікацыя Злучанымі Штатамі "Дамовы аб забароне ядзерных выпрабаваньняў" ня ёсьць правільным крокам на шляху да разззбраеньня. Аднак, Злучаныя Штаты лічаць сваім абавязкам уступленьне дамовы ў сілу і выконваць свой мараторый на выпрабаваньні.

Вяртаючыся да выказваньняў Латыпава ў Берліне, я хацеў бы зазначыць, што ён заявіў, выказаў такую крыўду на краіны Захаду, у сувязі з тым, што, па-першае, Захад і ЗША нібыта ніяк не кампэнсавалі вывад ядзерных ракетаў зь Беларусі і, па-другое, што ў Эўропе скэптычна так ставяцца да вядомых прапановаў Лукашэнкі аб стварэньні бязьядзернай зоны. Чаму, на вашую думку, гэтая ініцыятыва ўспрымаецца так скэптычна?"

**(Саньнікаў:)** "Таму што калі Лукашэка прапаноўвае стварэньне бязьядзернай зоны, а потым прапаноўвае вярнуць ядзерную зброю ў Беларусь, то як гэта могуць на Захадзе зразумець? Я ведаю, што тое, што казаў міністар замежных справаў у Бэрліне – гэта не адпавядае рэчаіснасьці, таму што Беларусь, як першая сярод краінаў-удзельніцаў гэтага пагадненьня, першая, якая выканала гэтыя пагадненьні, першая, якая сярод краінаў СНД стала бязьядзернай, яна атрымала дапамогу і атрымала абяцаньні яшчэ большай дапамогі. І толькі паводзіны Лукашэнкі, які не выконвае цяпер пагадненьняў пра зьнішчэньне стартавых пляцовак для СС-25, перапынілі гэтую дапамогу. Таму што дапамога накіраваная канкрэтна на тыя аб'екты, якія ўлучаныя ў дамову "Старт" і ў пагадненьне ў сувязі з гэтай дамовай. Наагул, дапамога ёсьць і калі сытуацыя зьменіцца – гэтая дапамога будзе размарожаная. Я ведаю пра гэта".

**(Тарас:)** "На колькі на Захадзе ўсьведамляюць, ці сур'ёзна ўспрымаць пагрозу вяртаньня ў Беларусь ядзерных ракетаў? Можа гэта зусім не ўспрымаецца як пагроза? Ну падумаеш, будуць ракеты на 200-300 кілямэтраў бліжэй да мяжы з НАТО. Гэта мае нейкія прынцыповыя значэньні?"

**(Карбалевіч:)** "Сапраўды, з пункту гледжаньня ваенна-стратэгічнага гэта мае велізарнае значэньне, таму што, скажам, калі гэта ракеты сярэдняга радыюсу дзеяньня, то тут вельмі важны час падлёту і, сапраўды, разьмяшчэньне ядзернай зброі ў Беларусі ў значным сэнсе мяняе стратэгічную сытуацыю ў Эўропе, а ў Цэнтральнай Эўропе – перадусім.

Гэта адразу ж выкліча нейкія вельмі значныя зрухі ў ваенна-стратэгічнай сытуацыі. Перадусім, гэта непазьбежна прывядзе да зьяўленьня ядзернай зброі ў краінах Цэнтральнай Эўропы, з усімі наступствамі ў справе напружанасьці ў гэтым рэгіёне, каля нашых межаў. І сапраўды – гэта вельмі значная зьмена ўсёй стратэгічнай сытуацыі ў Эўропе. Таму, калі б гэтыя пляны пачалі рэалізоўвацца на практыцы, гэта б прывяло да рэзкай канфрантацыі паміж Беларусяй і Захадам, паміж Расеяй і Захадам, і гэта было б вельмі моцнае абвастрэньне эўрапейскае сытуацыі.

**(Саньнікаў:)** "Тут я не магу пагадзіцца нават у нейкіх такіх прапагандысцкіх мэтах, таму што гэта не зьмяніла б сытуацыю. Мы не вядзем гаворкі пра ракеты сярэдняга радыюсу дзеяньня, таму што яны зьнішчаныя (на тэрыторыі Беларусі ў тым ліку) паводле дамовы, і гэта зараз немагчыма.

Калі мы кажам, што Расея можа вярнуць ядзерную зброю на тэрыторыю Беларусі – мы кажам пра міжкантынэнтальныя ракеты, і гэта так істотна не мяняе стратэгічную сытуацыю толькі з таго пункту, што гэтыя ракеты зьяўляюцца мабільнымі. Мабільныя – гэта значыць, што адсочваць іх больш складана.

Але існуе іншая магчымасьць, пра якую я ўзгадваў, гэта стварэньне ўласнае ядзернае зброі. Гэта можа быць толькі тактычная ядзерная зброя, і гэтая ядзерная зброя рэгулюецца толькі аднабаковымі не пагадненьнямі нават, а заявамі. Гэта былі заявы Буша-Ельцына, Ельцына-Клінтана. Іх пацьвярджалі і Клінтан, і я чакаю, што і Пуцін гэта зараз таксама зробіць. Але гэта толькі аднабаковыя заявы. І вось разьмяшчэньне гэтай тактычнай зброі міжнароднымі пагадненьнямі пакуль што не рэгулюецца.

Мы ведаем, што Расея зьмяніла сваю ваенную дактрыну. Першы раз гэта зрабіў Ельцын, потым гэта зрабіў Пуцін, і гэтая дактрына стала больш накіраванай на ядзерную зброю, на магчымасьць ужываньня ядзернай зброі ў выпадку агрэсіі супраць Расеі. На Захадзе гэта аналізуюць вельмі сур'ёзна як зьмену стратэгічнага балянсу, і калі Расея выкарыстоўвае Лукашэнку менавіта з гэтай мэтай – каб чарговы раз патлумачыць Захаду, што, маўляў, існуе такая небясьпека і выкарыстаць Лукашэнку, для якога міжнародныя пагадненьні нічога ня значаць, то гэтая гульня можа вельмі далёка завесьці".

**(Тарас:)** "Вы згадалі Пуціна, і я таксама згадаў вядомыя ўсім словы выканальніка абавязкаў прэзыдэнта Расеі пра тое, што Расея можа некалі стаць саюзьнікам НАТО. Гэтыя словы былі пададзеныя пазьней расейскімі СМІ як такі тонкі жарт. І ўсё ж, ці можна зусім выключаць такую магчымасьць у будучым, тым больш што для Ўкраіны (другога суседа Беларусі) такая пэрспэктыва выглядае ўсё больш рэальнай. Што тады рабіць Лукашэнку зь ягонай ідэяй фікс – стварэньня адзінай з Расеяй дзяржавы? Ці лёгка яму будзе перайсьці ад ваяўнічай антызаходняй рыторыкі да мірнай паўзаходняй, так бы мовіць, рыторыкі? Што адбудзецца ў такім выпадку зь ягоным электаратам?"

**(Карбалевіч:)** "Сапраўды, Пуцін пайшоў на нейкую рызыку, калі заявіў яшчэ да прэзыдэнцкіх выбараў пра магчымасьць уступленьня Расеі ў НАТО. Гэта нейкая рызыка, але яна магчыма апраўданая тым, што ён заваюе галасы больш правых, празаходніх, лібэральных колаў расейскага грамадзтва, хаця і страціць нейкія адсоткі левага, пракамуністычнага электарату.

Але я думаю, што гэта – вельмі важны крок. Крок арыентаваны на тое, што Пуцін і ягоная каманда, якая зь ім ідзе да ўлады, прыйшлі да высновы, што канфрантацыя із Захадам зараз папросту не выгодная для Расеі, яна проста-напраста не пад сілу.

Нават калі гэта прапагандысцкі крок – ён вельмі непрыемны для рэжыму Лукашэнкі. Ён разбурае ўсю палітычную прапагандысцкую канструкцыю, якую Лукашэнка стварыў. Канструкцыю, заснаваную на тым, што НАТО – гэта вечны вораг славянскіх народаў. Лукашэнку, як вядома, выгадны канфлікт паміж Расеяй і НАТО. Гэта падвышае палітычную вагу, надае сілы рэжыму Лукашэнкі і наадварот: супрацоўніцтва Расеі з НАТО, Расеі із Захадам падрывае рэжым Лукашэнкі ў кожным разе".

**(Тарас:)** "А цяпер паспрабуем падвесьці, вельмі каротка, вынікі: мы прыйшлі да высновы, што ў прынцыпе такая магчымасьць вяртаньня ядзернай зброі ў Беларусь існуе. Але наколькі яна рэальная ў бліжэйшай пэрспэктыве, гэта значыць: як хутка гэта можа адбыцца, і якія галоўныя палітычныя наступствы могуць быць у гэтага кроку?"

**(Саньнікаў:)** "Так, існуе. Я казаў, што калі Расея цяпер павядзе гаворку пра вяртаньне ядзернай зброі, то гэта будзе азначаць страту незалежнасьці Беларусі.

Існуе іншая магчымасьць, пра якую мы казалі – гэта стварэньне ядзернай зброі, і я лічу, што Лукашэнка можа гэта зрабіць, таму што ён сам сябе ставіць у шэраг такіх кіраўнікоў, як кіраўнікі Іраку, Кубы ці Паўночнай Карэі. І калі гэта адбудзецца... Ну, я лічу, па-першае, што павінен Захад і ўвогуле нашы суседзі, надаваць больш увагі такім заявам, таму што гэта не павінна адбыцца. Калі тэарэтычна мы ўявім сабе, што гэта адбудзецца, то гэта будзе азначаць, што Беларусь ужо будзе разглядацца як патэнцыйны агрэсар. Адносіны зь Беларусяй, я лічу, могуць быць заходнімі краінамі наагул пастаўленыя ў такую плоскасьць, у якой яны зараз існуюць з краінамі небясьпечнымі для міжнароднай супольнасьці".

**(Карбалевіч:)** "Я лічу, што праблема гэтая сапраўды існуе, і магчымасьць зьяўленьня ядзернай зброі на Беларусі ёсьць, але ў практычным сэнсе гэтая сытуацыя малаверагодная. Калі ж яна ўсё ж складзецца, то гэта будзе азначаць рэзкае абвастрэньне, канфрантацыю паміж Захадам і НАТО з аднаго боку, і Беларусяй і Расеяй – з другога. Гэта будзе азначаць, што Беларусь і Расея ўзводзяць такую вялікую мяжу, новую Бэрлінскую сьцяну. Гэта значыць, што пачнецца новы этап халоднай вайны паміж Захадам і Беларусяй і Расеяй. Беларусь і Расея апынуцца ў становішчы нейкіх такіх міжнародных выгнанцаў".

**Віталь Тарас**

## Сьвяткаваньне 25-га Сакавіка ў Лёндане, Англія.

У сыботу 25-га сакавіка Згуртаваньне Беларусаў у Вяліка-Брытаніі супольна з Англа-Беларускім Таварыствам ладзілі ў Лёндане сьвяткаваньне 25-га Сакавіка, гістарычны дзень незалежнасьці Беларусі — Дзень Волі.

Сьвяткаваньне пачалося ў перапоўненай царкве сьв. Апосталаў Пятра і Паўла, дзе а. А. Надсон адслужыў малебень за беларускі народ ды сказаў прынагодную пропаведзь ў якой прасіў прысутных маліцца да Ўсемагутнага Бога, каб Ён абудзіў у беларускім народзе любоў і пашану да свае краіны. Малебень закончыўся адсьпяваньнем рэлігійнага гімну "Магутны Божа".

Пасьля ўрачыстае Богаслужбы ўсе прысутныя перайшлі ў канфэрэнц-залю бібліятэкі імя Ф. Скарыны на сьвяточную акадэмію прысьвечаную важнай для беларусаў гадавіне.

У залі ўпрыгожанай беларускай гістарычнай сымболікай акадэмію адчыніла Спадарыня Лёля Міхалюк, старшыня ЗБВБ. Ад імя арганізацыі яна прывітала прысутных і прачытала рэфэрат пра падзеі ў 1918 годзе, калі адбылося абвешчаньне БНР. Рэфэрат на ангельскую мову перакладаў сп. Павал Шаўцоў. Прывітаньні ад беларускіх арганізацыяў з Амэрыкі, Канады, Аўстраліі, Беларусі ды ад старшыні Рады БНР былі прачытаныя па-беларуску і па-ангельску.

Ад імя Англа-Беларускага Таварыства вітаў прысутных старшыня гэтага таварыства Рован Карстэрс. Ён заклікаў прысутных дапамагаць таварыству ў вярбаваньні новых сяброў, каб лягчэй было пашыраць веды і прапаганду пра Беларусь, як у Англіі, так і ў іншых краінах сьвету.

На акадэміі прысутнічалі студэнты-беларусы з Оксфордскага і Камбрыджскага ўнівэрсытэтаў, як і група маладых студэнтаў з Менску. Студэнт Сяргей Стасевіч прадэклямаваў раньнія вершы Я. Купалы, а па-ангельску чытала вершы ведамая паэтка і перакладчыца Спадарыня Вера Рыч.

Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну "Мы выйдзем шчыльнымі радамі..." Таксама была праведзена акцыя збору ахвяраваньняў у "Фонд 25-га Сакавіка". Сяброўкі ЗБВБ падрыхтавалі добры пачастунак, падчас якога была добрая нагода бліжэй пазнаёміцца з прысутнымі ды падзяліцца сваімі ўражаньнямі.

Сыльвэстар Будкевіч.

## НЯЎЖО ПРАЎДА?

Афіцыйны Менск рыхтуецца прыняць ад Расеі стратэгічную ядзерную зброю - пра гэта піша расейская газэта "Новые Известия". Газэта спасылаецца на крыніцы, набліжаныя да кіраўніцтва Беларусі, быццам бы паміж Масквой і Менскам дасягнута паразуменьне на тэму размяшчэньня расейскіх стратэгічных ракетаў на тэрыторыі Беларусі. Паводле газэты, нельга выключыць, што на гэтую тэму падпісаны адпаведны пратакол, які ахоплены сакрэтам. Ядзерныя ракеты маглі б вярнуцца ў Беларусь нават у гэтым годзе, паколькі з часоў Савецкага Саюзу засталася вайсковая інфраструктура. Магчыма таксама, што на тэрыторыі Беларусі быдуць размешчаны мабільныя ракетныя комплексы альбо стратэгічныя бамбадзіроўшчыкі. У Быхаве, Бабруйску, Баранавічах ды Мачуліцах існуюць ваенныя аэрадромы, прыстасаваныя да цяжкіх самалётаў. Паводле газэты, у Мачуліцах ужо заўважаны рух: пачалася падрыхтоўка аэрадрома. У сваю чаргу ў Быхаве неаднойчы бывалі прадстаўнікі расейскага ды беларускага міністэрстваў абароны. Паводле "Новых Ізвестіяў", рухавіком цэлага мерапрыемства зьяўляецца сакрэтны саюз, заключаны паміж Аляксандрам Лукашэнкам ды часткай расейскіх генэралаў, ды накіраваны супраць выконваючага абавязкі прэзыдэнта Расейскай Федэрацыі Уладзіміра Пуціна.

«Рабочы»

Першы Усебеларускі з`езд праходзіў у снежні 1917 г. у гэтым будынку.



**ШАНОЎНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ, ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ!**

**На стыку тысячагоддзяў для нашай Бацькаўшчыны надышоў час, калі вырашаецца лёс не толькі сённяшніх пакаленняў, але і нашчадкаў. Вырашаецца пытанне: ці захавае Беларусь магчымасць стаць вольнай заможнай дзяржавай, ці будзе паступова канаць, аддаўшы сваю долю ў чужыя рукі. Мы апынуліся на гістарычнай мяжы, за якой – нацыянальная нябытнасць.**

**Тыя, хто імкнецца зліквідаваць нашу дзяржаўнасць, бессаромна спасылаюцца на ідэі інтэграцыі і грамадскую думку. Пад хісткай заслонай хлусні і фальсіфікацый яны рыхтуюць здачу суверэнітэту краіны, інкарпарацыю яе ў новую агрэсіўную імперыю. Гэты згубны здрадніцкі працэс неабходна рашуча спыніць. Дзеля гэтага мы звяртаемся да ўсіх патрыётаў Бацькаўшчыны з прапановай правесці ў 2000 годзе Усебеларускі з'езд.**

**Мэта яго – заявіць усяму свету, што дзяржаўнасць і дабрабыт Беларусі з'яўляюцца для ўсіх нас вышэйшымі каштоўнасцямі, што мы ніколі не дазволім ад нашага імя гандляваць Радзімай. Мы хочам і будзем сцвярджаць працаю і законнасцю сваю роўнасць між цывілізаваных, дэмакратычных народаў, сябруючы і супрацоўнічаючы з імі, уносячы свой непаўторны ўклад у развіццё прагрэса.**

**Мы заклікаем неадкладна стварыць аргкамітэт Усебеларускага з'езда і спадзяёмся, што наша ініцыятыва будзе падтрымана ўсімі здаровымі сіламі грамадства.**

**Калі трэба бараніць незалежнасць роднай дзяржавы, павінны быць адсунуты ўбок палітычныя рознагалоссі, забыты асабістыя крыўды. Разам мы здолеем захаваць сваю краіну.**

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

***Радзім Гарэцкі, Рыгор Барадулін, Карлас Шэрман, Генадзь Бураўкін, Янка Брыль, Стэфанія Станюта, Ніл Гілевіч, Уладзімір Арлоў, Аляксей Дудараў, Віктар Дашук, Віктар Скарабагатаў, Мікола Крукоўскі, Аляксандр Старыкевіч, Таццяна Працька, Аляксандр Патупа.***

**Збор подпісаў працягваецца.**

# "МЫ СПАДЗЯЁМСЯ САБРАЦЬ УСІХ, КАМУ ДАРАГАЯ БЕЛАРУСЬ..."

**Праца па арганізацыі з'езда ўжо пачата. Сярод тых, хто узначаліў яго аргкамітэт, — вядомы беларускі вучоны, доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Пятровіч ГРЫЦКЕВІЧ.**

***— Анатоль Пятровіч, што зроблена з таго часу, як была апублікавана адозва з заклікам сабраць з`езд?***

— Ідзе падрыхтоўчая работа. На мінулым тыдні, напрыклад, мы вызначаліся з нормай прадстаўніцтва. Тут маюцца розныя прапановы, але, відаць, найлепшым будзе, калі на з'езд прыедуць прадстаўнікі з усіх раёнаў Беларусі, абраныя на сходах грамадзян. Трэба таксама, каб былі прадстаўлены ўсе дэмакратычныя суполкі і ўвогуле ўсе арганізацыі, якія стаяць за суверэнітэт і незалежнасць дзяржавы. Задача стаіць так: з аднаго боку — максімальнае прадстаўніцтва, з другога — з'езд павінен быць рэальна працаздольным. Адначасова трэба вырашыць проста арганізацыйныя пытанні: нскалькі соцен дэлегатаў павінны мець магчымасць недзе сабрацца, заначаваць, проста паснедаць-павячэраць... Самі разумееце, калі гутарка ідзе пра акцыю, якая, хутчэй за усё, энтузіязму афіцыйных уладаў не выкліча, гэта таксама праблема.

> **"...Грамада прымае рашэнне аб падтрымцы ідэі склікання Усебеларускага з'езда групай вядомых людзей Беларусі. Мы гатовы ўдзельнічаць ў падрыхтоўцы і правядзенні Усебеларускага з'езда і заклікаем усе дэмакратычныя і патрыятычныя сілы падтрымаць гэтую ініцыятыву."**
>
> З заявы Цэнтральнай рады БСДГ "Аб падтрымцы ідэі склікання Усебеларускага з'езда супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі."

***— Я так разумею. што ў вашага з'езда ёсць гістарычны прататып — славуты Усебеларускі з'езд, які збіраўся ў снежні 1917-га...***

— Так, гэтая паралель непазбежная. Зразумела, у гісторыі не бывае літаральных паўтарэнняў — восем дзесяцігоддзяў таму і праблемы фармуляваліся не так, і задачы былі іншыя. Але ў пэўным сэнсе той з'езд павінен для нас быць узорам: удзельнічалі людзі самых розных слаёў грамадства, прадстаўнікі ўсіх асноўных нацыянальнасцяў, што жылі тады на Беларусі, дэлегаты ад большасці тагачасных палітычных партыяў... Здаровае спалучэнне дэмакратычнасці і патрыятызму — прыклад, на які можна раўняцца.

***— Ваш з'езд задуманы як з'езд беларусаў?***

— Не зусім так. Гэта павінен быць з'езд усіх, каму дарагая Беларусь, — вось на што мы спадзяёмся. Ён не можа быць аднабока этнічным хаця б таму, што гутарка, зноў паўтару, ідзе аб прадстаўніцтве ўсяго насельніцтва краіны. Я лічу, што нам трэба таксама запрасіць гасцей ад дэмакратычных рухаў з іншых краін — у тым ліку, безумоўна, і з Расіі! — павінен быць забяспечаны ўдзел замежных беларускіх суполак, аб'яднанняў нацыянальных меншасцяў...

> **Цэнтральны камітэт Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народнай Грамады) вітае ініцыятыву дзеячаў навукі, культуры і мастацтва аб правядзенні ў 2000 годзе Усебеларускага з'езда і даручае Выканаўчаму Бюро стварыць партыйную камісію для вядзення кансультацый аб Усебеларускім з'ездзе з грамадскімі і палітычнымі арганізацыямі.**
>
> Рэзалюцыя ЦК БСДП.

***— Якія задачы стаяць перад з'ездам?***

— Іх дзве, і яны сфармуляваны ў адозве дзеячаў беларускай культуры і навукі, у якой упершыню прагучала ідэя сабраць з'езд. Першая: паказаць усяму свету, у тым ліку і самой Беларусі, нашай уладзе і ўладам маскоўскім, што Рэспубліка Беларусь павінна быць незалежнай, суверэннай дзяржавай, што мы супраць любых аб'яднанняў, якія не на карысць ні нашаму, ні іншым народам. Другая: прадэманстраваць, што Беларусь здольная развівацца менавіта па дэмакратычнаму шляху — таму шляху, па якому ідуць нашы балтыйскія суседзі, Польшча, Чэхія, Славакія... Абраўшы яго аднойчы, яны паступова, крок за крокам, забяспечваюць у сябе і эканамічны росквіт, і міжнародную павагу. Тут не трэба падмяняць тэзісы: ніхто не выступае супраць уласна Расіі. Беларусь павінна сябраваць з ёй, падтрымліваць цесныя эканамічныя, навуковыя, культурныя і іншыя сувязі. Але губляць незалежнасць, звязваць сябе ваеннымі саюзамі і ў рэшце рэшт трапляць у заложнікі расійскай палітыкі мы права не маем.

***— Анатоль Пятровіч, гэтыя тэзісы самі па сабе настолькі бясспрэчныя, што і пярэчыць няёмка. Але каб абвясціць іх, неабавязкова збіраць з'езд — дастаткова звычайнага мітынгу...***

— Зразумела. На мой погляд, таксама нельга абмяжоўвацца проста эмацыянальнымі заклікамі. І нейкі савецкі партыйна-гаспадарчы сход наш з'езд не павінен нагадваць. Яго збору павінна папярэднічаць работа аналітычных груп — эканамічнай, палітычнай, іншых. Гэтыя групы будуць рыхтаваць дакументы, якія потым спатрэбіцца абмеркаваць з'езду.

***— Калі яго намечана сабраць?***

— Тут ёсць пэўныя рознагалоссі. Адно меркаванне — з'езд павінен сабрацца як мага хутчэй: маўляў, нельга губляць час, беларуская дэмакратычная апазіцыя павінна бесперапынна заяўляць пра сябе. Другое — якога, у прыватнасці, трымаюся і я — спяшацца нельга. Трэба сабраць людзей. Моц гэтага з'езда менавіта ў прадстаўніцтве з месцаў. Што скажуць вядомыя інтэлектуалы, у прынцыпе можна ўявіць — яны друкуюцца ў прэсе, удзельнічаюць у семінарах. А вось паслухаць народ з глыбінкі, з вёсак, з раёнаў вельмі цікава.

> У аргкамітэт з'езда ад БНФ вылучаны: Вінцук Вячорка, Вячаслаў Сіўчык, Юры Хадыка, Артур Вольскі, Яўген Лугін, Мікола Баўсюк, Рыгор Бакевіч, Валянцін Баранаў, Анатоль Фёдараў, Віктар Раманішка, Васіль Шалухін, Міхась Баўтовіч, Павел Севярынец, Аляксей Шэін, Андрэй Пятроў, Наталля Маковік. Управе даручана вылучыць прадстаўнікоў у арганізацыйна-тэхнічную групу.

***— Колькі часу будзе працягвацца з'езд?***

— Ведаеце, тут шмат што будзе залежыць ад арганізацыйных магчымасцяў — мы ж не за дзяржаўны кошт збіраемся! Прыемна, што ў дзелавых колах Беларусі знайшліся асобы, якія згодны прафінансаваць яго работу. Але пошук сродкаў працягваецца... На мой погляд, аптымальны час для такога роду акцыяў — недзе два-тры дні. Пры ўмове добрай папярэдняй падрыхтоўкі мы паспеем абмеркаваць усе пытанні.

***— Ідэя збору з'езда ўжо прагучала. Як адрэагавалі ўлады?***

— Пакуль што ніяк. Улічваючы іх знакамітую "самастойнасць", мне здаецца, што мінскія кіраўнікі яшчэ проста не пракансультаваліся з Масквой. А той, зразумела, пакуль што не да нас.

***— А няма думкі запрасіць на з'езд каго-небудзь з афіцыйных беларускіх начальнікаў?***

— Ведаеце, прапанова такая гучала. І нават не толькі ў выглядзе жарту. Аднак, мне здаецца, лепш не спяшацца. У нас на пасяджэннях будзе столькі пытанняў, а так мала часу! Марнаваць яго, каб пачуць тое, што мы і так кожны дзень чуем па тэлебачанню і радыё, — гэта недапушчальная раскоша.

**Гутарку вёў Сяргей МАНАСТЫРСКІ.**

# Галеча людзей — паратунак Лукашэнкі?

Калісьці адзін з вядомых еўрапейскіх пісьменнікаў напісаў, што калі некалькі разоў падняць цэны на піва, народ паднімецца на бунт. Пра Беларусь такога не скажаш. Наадварот, штомесяц растуць цэны на важнейшыя прадукты харчавання, але ж у Аляксандра Лукашэнкі застаецца ўстойлівае кола прыхільнікаў. І што адметна, большасць з іх належыць да людзей, якія вызначаюць сваё матэрыяльнае становішча як беднасць альбо ніжэй рысы беднасці. У той жа час у апазіцыі да цяперашняга фактычнага кіраўніка дзяржавы знаходзяцца грамадзяне Беларусі з высокім маёмасным і адукацыйным цэнзам альбо, інакш кажучы, больш-менш багатыя і разумныя беларусы. У апазіцыі да яго стаіць і большасць маладых людзей. Малады і граматны беларус, які жадае стаць багатым, — вось так можна выразіць сярэднестатычны партрэт чалавека з апазіцыі.

Узнікае заканамернае пытанне: няўжо людзям, якія падтрымліваюць А.Р., не хочацца жыць больш прыстойна, пераадолець узровень беднасці? Сакрэт даволі просты. Чалавека даводзяць да такога матэрыяльнага стану, што ён будзе дзякаваць нават за мізэрны заробак альбо пенсію, якія дазволяць купіць яму хоць хлеб. Узровень яго жыцця падае да такой мяжы, што ён будзе лічыць добразычліўцам нават таго, хто давёў яго да такога ўзроўню. Менавіта гэтымі прычынамі тлумачацца выказванні пенсіянераў, якія дзякуюць уладам за тое, што "хоць пенсію своечасова плацяць".

Амаль усе дыктатуры трымаліся на беднасці і галечы насельніцтва. Варта узгадаць рэжымы Каддафі ў Лівіі, Анвара Хаджы ў Албаніі, Кім Ір Сэна ў Паўночнай Карэі, Фідэля Кастра на Кубе і іншых. Большасць людзей была даведзена да гаротнага стану, але, тым не менш, вера ў правадыра не гасла.

Прыкладна такая ж сітуацыя зараз назіраецца ў Беларусі. Людзі, якія здольны самастойна, без дапамогі дзяржавы, зарабіць сабе на жыццё, не залежаць ад улад. Людзі, якія па стану здароўя ці ўзросту не могуць гэта зрабіць альбо не маюць дзелавой ініцыятывы, на такія крокі не здольны. Яны спадзяюцца толькі на дзяржаву па прынцыпе: лепш сініца ў руках, чым журавель у небе. Але ж беларуская сініца адрозніваецца ад іншых тым, што не можа забяспечваць нават той узровень, на які спадзяюцца людзі. Улады не маюць ні праграмы выхаду з крызісу, ні сур'ёзных спецыялістаў-эканамістаў. Улада і яе адзіны носьбіт Аляксандр Лукашэнка (бо цяжка назваць іншых кіраўнікоў краіны ўладай) могуць толькі абяцаць. Яму яшчэ вераць, але такіх усё менш і менш.

Беларусы ўсё больш спадзяюцца на ўласныя сілы, бяруць прыклад з суседзяў: Польшчы, Літвы, Эстоніі. Людзей можна давесці да галечы, але адвучыць іх думаць нельга.

Рэжымы Кубы, Паўночнай Карэі, Лівіі, Албаніі і іншых дыктатарскіх краін трымаліся альбо трымаюцца не толькі на даведзеным да галечы народзе, але і на сваіх выгадных геаграфічных пазіцыях — на выхадзе да мора. Такой асаблівасці ў Беларусі няма, і гэта аслабляе цяперашні рэжым. Але верыцца ў тое, што граматны і таленавіты беларускі народ у большасці сваёй зразумее прычыны сваёй галечы. Зразумее і зробіць для сябе пэўныя высновы. Дыктатура трымаецца на беднасці людзей, якія залежаць ад дзяржавы. Але і ў бедных беларусаў — уласны гонар.

**Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ.**
Магілёў.



# У Беларусі ёсць свой Вацлаў Гавел. Трэба толькі хутчэй прадставіць яго народу

*Народная Воля*

Кожнаму зразумела: той чалавек, які абяцаў кожнай вясковай бабулі замест згарэўшых грошай у савецкіх ашчадных касах па халадзільніку і тэлевізару, абвёў іх вакол пальца. Сам ён зрабіўся самым багатым чалавекам у краіне, а большасць людзей — жабракамі.

Таму шмат хто ўжо напаўголаса пытаецца, за каго галасаваць на будучых прэзідэнцкіх выбарах і якая ў яго праграма? А тыя, хто маўчыць і нават падтрымлівае на словах старшыню самага вялікага ў свеце саўгаса, для сябе ўжо вырашылі: "Як толькі атрымаю выбарчы бюлетэнь, адразу буду выкрэсліваць адно знаёмае прозвішча".

Гэтую сітуацыю добра разумее гаспадар будынка на вуліцы барадатага Карла Маркса і робіць усё магчымае, каб адцягнуць увагу ад будучых прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі, якія, па законе, ужо даўно павінны былі адбыцца.

Як не дзіўна, яму ў гэтым добра-такі дапамагаюць некаторыя кіраўнікі сённяшняй апазіцыі (асабліва былыя сябры і прыхільнікі першага прэзідэнта Беларусі).

Вось ужо амаль год гаворка ідзе толькі аб парламенцкіх выбарах у нейкі віртуальны парламент, ролю і функцыі якога кожны разумее па-свойму.

Пры гэтым ніхто не кажа аб выбарах прэзідэнта Беларусі і асабліва кіраўнікоў мясцовай улады (ад сельсавета — да вобласці). Наогул пра мясцовае самакіраванне апазіцыя даўно забылася, быццам не разумее, што без моцнай сілы знізу заўжды прайграеш любыя выбары, нягледзячы на самыя дэмакратычныя выбарчыя законы і кодэксы.

Таму я прапаную разглядаць сёлетнія выбары ў парламент толькі як падрыхтоўку да прэзідэнцкіх выбараў, тым болей, што яны могуць адбыцца датэрмінова, магчыма, і па расійскім сцэнарыі.

## Эфект Кебіча

Зараз сітуацыя ў нашай краіне цалкам паўтарае 1994 год. Улада, асабліва пасля адстаўкі Лінга, зноў, вобразна кажучы, валяецца пад нагамі, і ад нас залежыць, хто яе падыме гэтым разам.

Сітуацыя ў эканоміцы катастрафічная, і ўрад трымаецца толькі дзякуючы расійскім грашам, якія часткова трапляюць у Расію з Захаду. Наменклатура на месцах пачынае азірацца па баках і быць крайняй ужо не хоча. Інтэлігенцыя або на баку апазіцыі, або даўно маўчыць, трымае дулю ў кішэні і чакае моманту, каб яе паказаць.

Рабочыя і сяляне, асабліва пасля апошняга вялікага павышэння кошту на гарэлку, таксама коса глядзяць у бок афіцыйнага Мінска. Паступова пашыраецца незадаволенасць сярод вайскоўцаў, міліцыі, спецслужбаў і прадстаўнікоў мытні, суда, пракуратуры.

Дачыненні з Расіяй, як і некалі, у апошнія месяцы кіравання Кебіча, зайшлі ў тупік.

Альбо поўная здача незалежнасці і першы важны крок на гэтым шляху — пераход на расійскую валюту і ўваход нашай арміі ў склад расійскай, альбо паступовы адыход на ранейшыя пазіцыі віртуальнай саюзнай дзяржавы.

Галоўную ролю ў будучых прэзідэнцкіх выбарах, у фарміраванні настрояў простых людзей можа адыграць, акрамя апазіцыі, мясцовая вертыкальная наменклатура, тыя людзі, што будуць фармаваць і ўваходзіць у выбарчыя камісіі на ўсіх узроўнях. Калі яны ўбачаць сярод прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду чалавека, які ім будзе падабацца, выйгрыш яму забяспечаны, бо для гэтага варта толькі сумленна палічыць галасы выбаршчыкаў, якія добра памятаюць былыя абяцанкі.

Такім чынам, ад бясплённых спрэчак пра выбарчы закон, які ніколі пры сённяшняй уладзе не будзе дэмакратычным, трэба актыўна і арганізавана перайсці да падрыхтоўкі кандыдата ў прэзідэнты і паспець данесці яго імя і імёны сяброў яго каманды да выбаршчыкаў.

## Хто будзе кіраваць незалежнай Беларуссю ў XXI стагоддзі?

Паколькі дэмакратыя ў краіне мае чыста бутафорскі характар, дзейнасць палітычных партый і рухаў практычна забаронена і іх лідэры малавядомыя народу. Сярод іх я не бачу пакуль рэальных канкурэнтаў. Нават тыя, чые імёны калісьці і былі на слыху, ужо фактычна знішчаны афіцыйнай прапагандай, і іх ранейшы імідж аднавіць надзвычай цяжка. Таму працу трэба пачынаць зноў, і час для гэтага гісторыяй адведзены нядоўгі.

Як і дзе знайсці тую асобу, якая адыграе ў нашай гісторыі ролю генерала дэ Голя ці Вацлава Гавела? Няўжо ў нас бракуе такіх генералаў ці такіх акцёраў? Вядома, не. Яны чакаюць свайго зорнага часу. Наша з вамі задача яго наблізіць.

Вядома, адразу такую асобу ў нашых умовах выявіць і зрабіць вядомай усёй нашай супольнасці пры дзяржаўнай манаполіі на сродкі масавай інфармацыі даволі цяжка. Але ніхто ідэальных умоў нам не зробіць, і пачынаць трэба ўжо зараз.

На працягу вясны і лета ўсе грамадскія арганізацыі, партыі і рухі, а таксама групы асобных грамадзян могуць вылучыць такіх прэтэндэнтаў са сваіх асяродкаў.

Іх імёны можа надрукаваць недзяржаўная прэса (скажам, "Народная воля"), іх артыкулы з канцэпцыяй будучай выбарчай праграмы будуць цікавымі для актыўных у палітычным сэнсе людзей.

Такім чынам, да восені мы будзем ведаць імёны 5—10 чалавек, якія змогуць скласці дзесятку найбольш рэальных дэмакратычных прэтэндэнтаў на будучую ўладу. Галоўная іх мэта — крытыкуючы сённяшнюю эканоміку і палітыку, не спрачацца паміж сабою і ў любой сітуацыі складаць адзіную каманду, дзе будзе месца юрысту і эканамісту, вайскоўцу і пісьменніку, мастаку і прадпрымальніку. Сярод іх будуць людзі рознага ўзросту, нацыянальнасці, полу і веравызнання. Акрамя сваіх прафесійных якасцей, іх павінна аб'ядноўваць любоў да краіны, яе гісторыі і культуры, з іх вуснаў гучаць беларуская мова, а твар не павінна пакідаць добразычлівая ўсмешка.

Пасля таго як каманда прэтэндэнтаў будзе створана, тады можна ўдзельнічаць і ў парламенцкіх выбарах, асабліва на стадыі збору подпісаў за нашых людзей. Той, хто збярэ іх больш, той і ёсць магчымы пераможца на прэзідэнцкіх выбарах, а астатнія — яго давераныя асобы.

Вядома, такі ход падзей не вельмі спадабаецца "братняй" Расіі. Але мы ў свеце і Еўропе не адны, і калі беларускі народ прачнецца, нам дапаможа еўрапейская дэмакратыя. Варта толькі ўспомніць суседнія Літву і Латвію.

Магчыма, што сваю ролю ў гэтай справе адыграе і Усебеларускі з'езд, дзе можна таксама вылучыць некалькі рэальных кандыдатаў для ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах.

Як толькі такія людзі з'явяцца, "калос на гліняных нагах", а гэта зараз сённяшні рэжым, абавязкова абрынецца, бо ён трымаецца толькі на хлусні і страху.

**Алег ТРУСАЎ,**

# Хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага

"Удзельнічаць ці не ўдзельнічаць у восеньскіх выбарах у заканадаўчы орган улады?" — гэтае гамлетаўскае пытанне востра стаіць перад палітычнымі партыямі краіны. Адны палітыкі кажуць, што пры такім выбарчым заканадаўстве, якое не забяспечвае дэмакратычныя ўмовы правядзення выбараў, удзельнічаць не трэба і нагадваюць, што ўдзел можа прывесці да легітымізацыі рэжыму. Другія лічаць, што прыняць удзел неабходна, бо галоўная мэта палітычных партый — удзел і перамога на выбарах. І спасылаюцца пры гэтым на еўрапейскі вопыт.

Так, сапраўды еўрапейскія партыі парламенцкага тыпу ставяць перад сабой галоўную мэту — перамогу на выбарах. Але ж там, у Еўропе, і ўмовы для правядзення выбараў больш дэмакратычныя. Там у большасці краін выбіраюць і па партыйных спісах, там і вопыт дэмакратыі назапашваўся гадамі. А ў Беларусі ледзь-ледзь прараслі квёлыя парасткі дэмакратыі, ды і то ў большасці выпадкаў яны растаптаны цяперашнім кіраўніком беларускай дзяржавы. Але ж ці значыць гэта, што партыі не павінны ўдзельнічаць у выбарах у заканадаўчы орган краіны?

Відавочна, што апазіцыя, якая апынулася па-за сістэмай, губляе значныя рычагі ўплыву на жыхароў краіны. Пазасістэмная апазіцыя губляе магчымасць адстойваць свае пазіцыі, прапагандаваць свае ідэі праз парламент, дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, праз сустрэчы з выбаршчыкамі. Так, у яе застаецца эфектыўны сродак — вулічныя акцыі пратэсту, аднак цяжка спадзявацца, што пры іх дапамозе значна пашырыцца кола прыхільнікаў дэмакратычных ідэй. Апынуўшыся па-за сістэмай на доўгі час, партыі рызыкуюць ператварыцца ў сектанцкія групоўкі. Быццам бы ўсе палітыкі цудоўна разумеюць, што ісці на выбары патрэбна, але ў той жа час лічаць, што ўдзельнічаць патрэбна толькі пры лібералізацыі выбарчага заканадаўства, патрабуюць ад Лукашэнкі, каб той унёс адпаведныя змены ў выбарчае заканадаўства. Асабіста мне такія палітыкі нагадваюць героя з рамана Ільфа і Пятрова, якому казалі: "Што, вам даць ключ ад кватэры, дзе грошы ляжаць?". Наіўна спадзявацца, што Аляксандр Лукашэнка аддасць ключы апазіцыі, каб яе прадстаўнікі сталі дэпутатамі ў спрыяльных умовах. Наадварот, гістарычны вопыт сведчыць, што ні жорсткая, ні больш мяккая дыктатура, як у Беларусі, ніколі не ідзе на дэмакратычныя выбары. Галоўная мэта дыктатуры — любымі сродкамі захаваць уладу. Галоўная мэта апазіцыі — дабіцца прыходу да ўлады, выкарыстоўваючы любыя шансы. Восеньскія выбары — якраз і ёсць той шанц для беларускай апазіцыі.

У народзе добра кажуць, што хто не рызыкуе, той не п'е шампанскага. Тым, хто лічыць, што ісці на выбары трэба толькі пры самых спрыяльных умовах, хацеў бы нагадаць словы Гётэ, які казаў, што толькі той варты жыцця і свабоды, хто кожны дзень ідзе за іх у бой. У свой час, нягледзячы на ціск, у Дзяржаўную думу Расіі прайшло некалькі прадстаўнікоў партыі бальшавікоў. Нягледзячы на рэпрэсіі з боку польскіх улад у Заходняй Беларусі, якая належала Польшчы, у 30-х гадах дэпутатамі парламента стала некалькі прадстаўнікоў беларускай партыі. А што, у спрыяльных умовах знаходзіўся прафсаюз "Салідарнасць", які ў 80-х гадах перамог на выбарах у польскі парламент? Уладу так проста ніхто не аддае, асабліва, аўтарытарны рэжым, які пануе зараз у Беларусі.

Хацелася б, каб рэжым пайшоў на лібералізацыю выбарчага заканадаўства, каб ён не абмежаваўся толькі яго касметычнымі праўкамі. І правільна робяць палітычныя партыі, якія пастаянна патрабуюць змены заканадаўства і да апошняй хвіліны будуць гэта рабіць. Але варта не забывацца, што восеньскія выбары — адзін з нямногіх шанцаў папярэдзіць спаўзанне Беларусі ў галечу і савецкае мінулае на доўгія-доўгія гады. Апазіцыйныя партыі, каб захаваць свой твар, могуць заявіць, што не будуць удзельнічаць у выбарах на такіх умовах, але заўжды могуць знайсці і падтрымаць кандыдатаў у дэпутаты, якія падзяляюць дэмакратычныя ідэі.

Верагодна, што ў заканадаўчы орган краіны пройдуць толькі некалькі дзесяткаў дэмакратычна настроеных дэпутатаў, а магчыма — і значна менш. Але ж вопыт найноўшай гісторыі сведчыць, што некалькі дзесяткаў актыўных і разумных дэпутатаў могуць зрабіць значна больш, чым парламенцкая большасць. Я маю на ўвазе фракцыю БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання, якая змагла ініцыяваць прыняцце важных законаў, якія ў значнай меры змянілі жыццё Беларусі. І абраныя выбаршчыкамі дэпутаты будуць мець больш вагі, чым нелігітымны прэзідэнт, аб чым яны могуць паставіць пытанне перад беларускім народам.

Так, партыям патрэбна абараняць свае прынцыпы, але ж гэта не значыць, што падчас палітычнага працэсу яны не могуць мяняць сваю тактыку. Тыя палітыкі, якія агітуюць не ўдзельнічаць у выбарах пры любых саступках існуючага рэжыму, нагадваюць страуса, які перад небяспекай хавае галаву ў пясок. Верагодна, што палітычныя партыі, якія не змогуць стаць апазіцыяй у межах сістэмы, рызыкуюць ператварыцца ў сектанцкія групоўкі і згубіць дадатковыя магчымасці ўплыву на выбаршчыкаў. Так, ідэі патрэбна абараняць, але палітыка — рэч, якая дазваляе карэкціраваць палітычны курс пры любым зігзагу гісторыі. Відаць, некаторым артадаксальным палітыкам варта ўзгадаць словы выдатнага рымскага прамоўцы Цыцэрона: "Мы сапраўды свабодныя, калі захоўваем здольнасць разважаць самастойна, калі неабходнасць не прымушае нас абараняць навязаныя і ў нейкім родзе прадпісаныя нам думкі".

**Аляксандр СЕРДЗЮКОЎ.**
г.Магілёў.

# Беларусі быць незалежнай!..



Неадольнае імкненьне беларускіх уладаў у расійскія абдымкі паступова ператвараецца для іх у застарэлую хваробу, абвастрэньне якой чакаецца кожную вясну. Сіндром "яднаньня" чатыры гады запар абуджаўся ўвесну, накіроўваючы дэлегацыю за дэлегацыяй у бок Масквы, памнажаючы колькасьць падпісаных "дакументаў", якія ні адзін з бакоў да нічога не абавязвалі. На 2 красавіка, на дзень, калі А. Лукашэнка ў інтэграцыйным запале разьбіў келіх з гарэлкай у Крамлёўскай зале "за вечную дружбу", нават было прызначанае двух дзяржаўнае сьвята пад назовам "Дзень яднаньня рускага і беларускага народаў". Усе папярэднія гады дзень гэты азначаўся ўрачыстымі прамовамі, канцэртамі "майстроў мастацтваў" ды шумнымі застольлямі чальцоў "бліжняга кола". Сёлета ж на афіцыйным узроўні "сьвята яднаньня" прайшло сьціпла, амаль непрыкметна. І прычына гэтага можа быць адна: разьвітаньне (як мінімум на чатыры гады, а дакладней — назаўсёды) А.Лукашэнкі з марай (і мэтай!) заняць маскоўскі прастол. Справа ў тым, што прэзідэнцкія выбары, якія за тыдзень да таго прайшлі ў Расіі, зацьвердзілі пераканаўчую перамогу на іх Уладзіміра Пуціна. І тут хочаш ня хочаш, а згадаеш старажытных рымлянаў, якія казалі: "Лепш быць першым у правінцыі, чым другім у сталіцы". Дык навошта тады сваю сталіцу ператвараць у чужую правінцыю...

2 красавіка традыцыйна праводзіць свае акцыі пратэсту супраць інкарпарацыі Беларусі Расіяй і беларуская апазіцыя.Сёлета гэты дзень было вырашана адзначаць чыста сімвалічна, як Дзень памяці беларусаў, што загінулі за незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны. У парку каля помніку народнаму песьняру Янку Купалу сабралася каля тысячы менчукоў. У памяць продкаў-герояў былі запаленыя сьвечкі, а сьвятары асноўных канфесіяў Беларусі правялі памінальную імшу. Супрацоўнікі міліцыі, якія "вызначыліся" 25 сакавіка, у гэты дзень паводзілі сябе спакойна і было іх няшмат. А таму акцыя, у адрозьненьне ад папярэдніх гадоў, калі на вуліцах Мінску праводзіліся масавыя затрыманьні і лілася нават кроў, гэтым разам прайшла амаль без эксцэсаў.

**Андрэй НАЛІВА**





Сьв. Памяці

**Віктар і Ірэна Касьцюкевічы**

трагічна загінулі каля асельля "Слуцк" на поўнач ад Таронта ў Канадзе.

Нябожчык Віктар нарадзіўся ў Заходняй Беларусі на Віленшчыне, а яго жонка Ірэна ў Польшчы. Віктар пражыў на гэтым сьвеце 75 гадоў, жонка Ірэна 74 г.

Пакінулі ў смутку дачку Тэрэсу і сына Леанарда з унукамі ды іншае сваяцтва.

Пахаваньне адбылося ў Parry Sound, Ont. Canada.

Недзе на прыканцы сакавіка г.г. Ірэна пабачыла свайго сабаку, добрага прыяцеля сям'і, у небясьпецы на лёдзе ракі. Кінулася яго ратаваць, лёд зламаўся і яна правалілася ў ваду хуткае ракі. Паклікала дапамогі. Віктар, муж яе, кінуўся ў гнеўную раку ратаваць жонку. Ня здолеў уратаваць, і сам з ёю загінуў.

Сьв. памяці Віктар быў сталым чытачом нашае газэты і яе фундатарам.

Няхай будзе Ім пухам канадыйская зямля.

**ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!**




**Др. Барыс Рагуля — заміж кветак на магілу Віктара і Ірэны Касьцюкевічаў $100.оо**

# Катынь – дзяржаўнае злачынства

**Андрэй ВЯРЫГА**

У нашай гісторыі на красавік прыпадаюць сумныя падзеі. У 1986 годзе на краіну абрушылася Чарнобыльская катастрофа. А 60 гадоў таму, напачатку красавіка, каля вёскі Катынь на Смаленшчыне сталінскія карнікі з НКУС расстралялі каля 5 тысяч салдатаў і афіцэраў польскага войска, захопленых у палон падчас ваенных дзеянняў восені 1939 года.

Болей за паўстагоддзя савецкія і расійскія ўлады не прызнаваліся ў гэтым злачынстве, ускладаючы віну за злачынства на эсэсаўцаў. Нарэшце Ельцын вырашыў за лепшае прызнаць афіцыйна тое, што было вядомае ўсяму свету. У Катыні ахвярам генацыду пастаўлены памятны крыж, а радок пра Катынь напісаны на слупах каля Магілы Невядомага Салдата ў Варшаве.

Сярод расстраляных у Катыні вайскоўцаў было шмат нашых землякоў – ураджэнцаў Заходняй Беларусі, мабілізаваных у польскую армію напярэдадні і з пачаткам Другой сусветнай вайны. Зразумела, што польскі бок трактуе іх як палякаў. Зразумела таксама, што гэткай жа трактоўкі трымаецца расійскі бок, абыходзячы такім чынам беларускую прысутнасць у брацкіх магілах Катыні. А наш сённяшні ўрад, прыхільны ідэі стварэння Саюза (адраджэння СССР), наогул не цікавіцца катынскімі расстрэламі, памяць пра катынскія ахвяры ў нас на афіцыйным узроўні не існуе. Нічога дзіўнага ў гэтым няма, бо ў нас нават Курапаты намагаліся спісаць на СС, а цяпер і выканаўчая ўлада, і дзве палаты заканатворцаў на іх забыліся. Ня трэба тлумачыць, што людзі, якіх лёс паставіў пад ружжо ў войска польскае, калі Гітлер і Сталін пачалі таямніча падрыхтаваны і ўзгоднены перадзел Еўропы, і якія супрацьстаялі гэтай агрэсіі, лічыліся ворагамі пры бальшавіках і адпаведна не лічацца ахвярамі пры іхных ідэйных пераемніках.




**Мітрапаліт Дзяніс (Варшава, Польшча).
Зьлева архіепіскап Філафей, зправа епіскап Афанас. Сядзіць зьлева др. М. Шчорс. 1942 (?)**

Аднак расійскі бок дзеля паляпшэння адносінаў з Польшчай вырашыў паставіць кропку на балючых для польскага грамадства таямніцах берыяўскіх расстрэлаў у Катыні. 13 красавіка новаабраны прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін затэлефанаваў прэзідэнту Польшчы Аляксандру Квасьнеўскаму. Пуцін паведаміў Квасьнеўскаму пра адкрыццё невядомых раней месцаў масавых забойстваў польскіх салдатаў і афіцэраў у 1939—1941 гадах і запрасіў палякаў да ўдзелу ў расследаванні, якое будзе праводзіць расійская пракуратура. Гісторыкі Польшчы прымуць удзел у працы спецыяльнай камісіі.

Усяго сталінскімі карнікамі былі расстраляныя болей за 21.800 палонных. Колькі ў гэтым ліку дакладна жыхароў з былой Заходняй Беларусі – ніхто не лічыў. Было б годна для нас, калі б нашы гісторыкі даведаліся пра гэта і аддалі б належную памяць пакутнікам. Ясная рэч, што папрасіць месца ў складзе ўзгаданай расійскай камісіі мусіць наш урад, а ў дадзеным выпадку, пасля тэлефоннай размовы Пуціна і Квасьнеўскага, толькі А. Лукашэнка. Падчас свайго візіту ў Мінск прэзідэнт Пуцін з кіраўніком Беларусі пра Катынь не размаўляў. Яны абмяркоўвалі іншае пытаньне, датычнае смаленскіх зямель, — размяшчэньня тут, на расійска-беларускім памежжы, 300-тысячнай групоўкі войскаў з мэтай абароны ад пагрозы ўдару з Захаду. Катынскія брацкія могілкі 1940 года сведчаць, аднак, пра іншы накірунак магчымай пагрозы.

# Абмен: Сівакова на Удавікова?

Пасля таго, як 21 красавіка міністр унутраных справаў Юрый Сівакоў быў адпраўлены ў адстаўку, ягоныя абавязкі былі ўскладзены на першага намесніка міністра, начальніка міліцыі Міхаіла Удавікова, які лічыцца «чалавекам Шэймана». Хутчэй за ўсё, ён жа цяпер будзе прапанаваны на пасаду міністра. На палітычным небасхіле ён з'явіўся ў 90-м годзе ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання, куды патрапіў разам з В.Шэйманам. І адзін, і другі балатаваліся ў дэпутаты ад Брэста, абодва там жа неслі службу. Потым прыйшоў Лукашэнка, і ўсяго за два гады – з 1996 да 1998 – Удавікоў «вырас» з першага намесніка начальніка Брэсцкага абласнога ўпраўлення ўнутраных справаў да першага намесніка міністра…

Іншымі кандыдатамі на пасаду міністра ўнутраных справаў называюць начальніка Мінскага ГУУС Барыса Тарлецкага, а таксама цяперашняга камандуючага ўнутранымі войскамі Юрыя Жадобіна. Але нам гэтыя кандыдатуры прэдстаўляюцца малаверагоднымі: наколькі нам вядома, Б. Тарлецкі раней ужо адхіляў прапановы стаць міністрам – відаць, не па ім гэтая праца. А што датычыць магчымага прызначэньня Ю. Жадобіна, то прыхільнікі гэтай версіі, хутчэй за ўсё, абапіраюцца толькі на традыцыю: маўляў, спачатку В. Агальца зрабілі міністрам, забраўшы яго з пасады камандуючага ўнутранымі войскамі, потым той жа фінт зрабіў і Ю. Сівакоў…

# ЛУКАШЭНКА СТРАШЫЦЬ…

Галоўным штабам Узброеных сіл Беларусі і Гэнэральным штабам Узброеных сіл Расеі будзе распрацаваны плян разгортваньня рэгіянальнай групоўкі войскаў дзьвюх краінаў. Як паведамляюць расейскія СМІ, пра гэта 25 красавіка паведаміў у Маскве прэм'ер-міністар Беларусі Уладзімір Ярмошын. Паводле ягоных слоў, рэгіянальную групоўку войскаў складуць 80 тысячаў ваеннаслужачых беларускага войска; "астатняе - гэта тыя злучэньні Узброеных сілаў Расейскай Фэдэрацыі, якія дыслацыруюцца паблізу ад мяжы Беларусі ці на больш аддаленых месцах". Трэба ведаць, што, так званай, беларускай арміяй кіруюць расейскія генэралы і афіцэры. Цяпер памежныя з Беларусяй краіны напэўна пачнуць узмацняць сваю сілу абароны і абароназдольнасьць. Такім чынам перавага заўсёды будзе на баку заходніх краін…

